# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 7 (625) ГОД XIII 18 ЛЮТАГА 1968 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

### СПРАВАЗДАЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

3-га лютага адбылася справаздачная канферэнцыя гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. З дакладам выступіла сакратар аддзела Вера Леўчук. Яна ахарактарызавала ролю аддзела ў так важным цэнтры, як горад Беласток, дала ацэнку дзейнасці аддзела, яго мерапрыемстваў і сканцэнтравала галоўную ўвагу над заданнямі беларускага таварыства ў нашым ваяводскім горадзе.

Аб тым, чым займаўся аддзел у справаздачным перыядзе, напішам у наступным нумары «Нівы».

Пасля даклада пачалася дыскусія. Сябра Уладзімір Навіцкі падкрэсліваў тое, што штатны працаўнік аддзела, якім з'яўляецца інструктар, павінен быць галоўным арганізатарам усіх мерапрыемстваў, якія ініцыюе праўленне аддзела. А ужо даўжэйшы час аддзел не мае шчасця да адпаведнага інструктара.

Аб большай працы з беластоцкімі беларусамі гаварыў Янка Младзяноўскі. На гэтую самую праблему звярта ўвагу ў сваім выступленні і Іван Стрышко.

Сакратар ГП Уладзімір Ювзюк між іншым прапанаваў весці ў аддзеле культурна-асветную працу аддзельна для моладзі, аддзельна для старэйшага пакалення і аддзельна для школьнікаў. Кожная гэтая група людзей мае зацікаўленні згодна са сваім узростам. Далей у дыскусіі забіралі голас В. Літвіньчык, А. Кунах, Х. Садоўскі, Ж. Младзяноўская, Р. Скарынкевіч і іншыя. Гаварылі яны аб рэгулярным аплачванні членскіх складчын, аб шырэйшай інфармацыі аб тым, што дзеецца ў аддзеле, аб неактыўнасці некаторых членаў праўлення, аб павелічэнні ў горадзе чытачоў «Нівы» і чытачоў бібліятэкі, аб змене гадзін радыёперадач на беларускай мове, аб патрэбе арганізавання для школьнікаў пункта навучання беларускай мовы. Дыскусію падсумавала Вера Леўчук.

Канферэнцыя аддзела на месца выбыўшых двух членаў праўлення прыняла ў праўленне Жэню Младзяноўскую і Івана Стрышко. Вёў канферэнцыю Міхась Хмялеўскі. (мс)

### У ВАРШАЎСКІМ АДДЗЕЛЕ

Варшаўскі аддзел БГКТ працавіта пачаў 1968 г. Арганізаваныя ў студзені г. г. мерапрыемствы былі прысвечаны адзначэнню 49 гадавіны ўтварэння Савецкай Беларусі. З нагоды гэтай гадавіны 13 студзеня арганізавана ў Кавярні «Усьмех» навагоднюю сустрэчу членаў і сімпатыкаў Беларускага таварыства.

19 студзеня ў памяшканні Таварыства мгр А. Багроўская, навуковы працаўнік Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта падзялілася сваімі ўражаннямі з трохмесячнай пабыўкі ў БССР. Расказала яна аб сваіх сустрэчах з пісьменнікамі Савецкай Беларусі старэйшага і малодшага пакаленняў.

21. I. праводзілася традыцыйная ёлка для дзяцей, якіх бацькі з'яўляюцца актыўнымі членамі Варшаўскага аддзела. Дзеці дэкламавалі вершы на беларускай мове, спявалі беларускія песні, танцавалі, развязвалі цікавыя конкурсы ў падрыхтоўцы С. Гайдучэні. На заканчэнне дзеці атрымалі падарункі.

26. I. праводзіўся цікавы вечар прысвечаны Савецкай Беларусі. Аб эканамічных дасягненнях БССР гаварыў мгр Ю. Туронак. З культурна-асветнай праблематыкай Беларусі пазнаёміў прысутных В. Швед.

На сваім студзеньскім пасяджэнні Праўленне зацвердзіла справаздачу з працы за мінулы год і апрацавала план працы на 1968 год. В. Ш.

# НАШЫ ДАСЯГНЕННІ

Увайшло ў традыцыю, што пасля падвядзення вынікаў працы БГКТ за мінулы год дзелімся з чытачамі сваімі дасягненнямі і недахопамі.

У канцы 1967 года БГКТ налічвала 172 гурткі і 6093 члены, гэта зн. на 594 члены больш, чым у папярэднім годзе. Найвялікшы прырост наступіў у Гайнаўскім аддзеле — звыш 320 членаў.

Узрост арганізацыі ў паасобных паветах і асноўныя арганізацыйныя мерапрыемствы паказвае наступная табліца:

| № | Аддзелы | Лік | | Колькасць | | Абслуга гурткоў | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | гурткоў | членаў | пасядж. аддз. | канфер. аддз. | актыў | шт. прац. |
| 1. | Беласток | 1 | 755 | 9 | — | — | — |
| 2. | Бельскі | 46 | 1572 | 7 | 2 | 4 | 130 |
| 3. | Гайнаўскі | 63 | 2075 | 8 | 3 | 36 | 134 |
| 4. | Гарадоцкі | 6 | 200 | 2 | 1 | 4 | 4 |
| 5. | Варшаўскі | 1 | 225 | 7 | — | — | — |
| 6. | Дуброўскі | 5 | 144 | 3 | 1 | 4 | — |
| 7. | Мілейчыцкі | 17 | 518 | 6 | 1 | 17 | 106 |
| 8. | Міхалоўскі | 9 | 141 | 4 | 1 | 9 | 2 |
| 9. | Сакольскі | 24 | 403 | 9 | 2 | 18 | 92 |
| 10. | Гданьск | 1 | 60 | 2 | — | — | 2 |
| | **Разам** | **173** | **6093** | **57** | **11** | **92** | **470** |

Прэзідыум ГП БГКТ правяло 8 пасяджэнняў. Былі яны прысвечаны апрацаванню планаў працы і іх рэалізацыі, дзейнасці грамадскіх камісій і аб'яднанняў, абмеркаванню фінансавага забеспячэння ўсіх мерапрыемстваў, святкаванню слаўных гадавін, рэалізацыі выдавецкіх планаў, працы органа ГП «Нівы» і аддзелаў БГКТ. Ацэнка працы праўленняў аддзелаў БГКТ была праведзена ў Беластоку, Бельску, Сакольш.

У 1967 г. адбыліся 2 пленарныя пасяджэнні, з якіх першае — 16.IV было прысвечана месцу БГКТ у рэалізацыі пастановы ПВРН № 62/66 у справе дапамогі нацыянальным меншасцям і другое — 5.XI — 50-годдзю Вялікага Кастрычніка і працы БГКТ у асенне-зімовым сезоне.

У тым жа годзе выдадзена: 1) беларускі каляндар на 1968 г., 2) зборнік паэзіі В. Шведа «Жыццёвыя сцежкі», 3) статут БГКТ, а таксама падрыхтавана некалькі пазіцый да друку.

Адным з найбольш працаёмкіх і эфектыўных мерапрыемстваў было святкаванне 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Выпрацаваны ў шырокай дыскусіі план даў наступныя рэзультаты: 112 вечарын і сустрэч з удзельнікамі Кастрычніцкіх падзей, у якіх прыняло ўдзел 14 140 асоб. Мастацкую частку на іх забяспечыла 30 беларускіх аматарскіх гурткоў, 19 школ, 46 фільмаў БГКТ і 12 канцэртаў эстрады «Лявоніха». Вялікая колькасць сустрэч прадстаўнікоў розных установ ПНР, СССР з насельніцтвам, выставак кніжак і фотаздымкаў аб дасягненнях БССР у галіне эканомікі і культуры спрыялі масаваму ўдзелу насельніцтва ў адзначэнні гэтай гадавіны.

(Працяг на стар. 3)

РАЗМОВЫ ПРА КУЛЬТУРУ

# КЛЯШЧЭЛЕЎСКІ ПРЫКЛАД



Кляшчэлеўская бібліятэка сталася за часоў Надзі Бахэнэк жывым цэнтрам культуры. Ды мо аддамо голас самой Надзі:

— Ад як даўно вы тут? — пытаем.

— Ад пачатку 1967 года, раней у Нарве ў бібліятэцы два гады працавала.

— Як працуеце, што ваша праца дае відавочныя вынікі?

— Стараюся проста працаваць. Выязджаю ў тэрэн — маю восем бібліятэчных пунктаў, падказваю кіраўнікам пунктаў, як і што рабіць, каб прыцягнуць чытача да кніжкі. Заўсёды, зіма ці лета, стараюся даязджаць да кожнага пункта.

— А ваш уласны метад працы з чытачом?

— Перш за ўсё індывідуальныя размовы. Напрыклад, чытач бярэ кніжку, я яму падаю другую. Кажу, вазьмі, пабач, як не спадабаецца, аддасі. Інфармую таксама ў меру магчымасці аб самой кніжцы. З вядомых ужо форм прымяняю высвятлянне казак дзецям, выстаўкі навасцей, арганізую вечары прыгожага чытання. Хто найпрыгажэй прачытае фрагмент, атрымоўвае ўзнагароду — цукерку. Зразумела, так раблю толькі з дзяцьмі.

— На тэму беларускіх кніжак хачу пачуць ваш пагляд.

— Малавата іх такіх, якія б чыталіся. Чытач наш старэйшы, любіць ваенныя кніжкі і любоўныя раманы. Беларуская кніжка «Нончына каханне» хадзіла ў Пяграбах з рук у рукі без адпачынку. Я маю чытачоў, як напрыклад, Васіль Яканюк, якія чытаюць толькі па-беларуску і рускy. Яканюк цяпер, штопраўда, чытае менш, але і вычытаў ужо амаль усе беларускія кніжкі. Дзеці? Гэта асобны раздзел. Дзеці чытаюць ахвотна і многа. Але бібліятэка зусім мала мае для іх літаратуры.

— Якая гэта павінна быць літаратура па-вашаму?

— Ілюстраваная — гэта першае, невялікіх памераў, большымі літарамі друкаваны тэкст. Я ў апошні час атрымала з беларускіх навінак «Жыццёвыя сцежкі» — зборнік вершаў Віктара Шведа. Для дзяцей аднак задробны тут шрыфт. Мне здаецца, што ўвогуле заахвочваць да чытання трэба пачынаць ад дзяцей, даючы ім цікавую, добрую і

(Працяг на стар. 5)



Беласток. Жыллёвыя будынкі на вуліцы Марыі Складоўскай-Кюры. (З альбома Генрыха Вілька).

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### ШОК ПРАДАЎЖАЕЦЦА

Калі пішам гэты матэрыял, ужо 14 дзень прадаўжаецца наступленне в'етнамскіх партызан. Наступленне шырокае, ахопліваючае гарады і рэгулярную бітву пад Ке Сань. Цэлы свет абегла вестка і выклікала бурлівыя дыскусіі аб тым, што в'етнамскія патрыёты ў бой увялі нават танкі. Наступленне партызан навяло шок на Вашынгтон і даказала насельніцтву аб сіле патрыётаў і аб падтрымцы іх сярод насельніцтва, а адначасова выказала пустаслоўе Джонсана, калі запэўніў ён свой народ аб хуткім паражэнні партызан і што яны фактычна сапхнуты ў джунглю.

Выпадкі ў В'етнаме вельмі вобразна паказваюць, што сайгонскі рэжым не мог бы ўтрымацца ніводнага дня, калі б не заангажаванне амерыканцаў. Паўднёвав'етнамскі ўрад зараз не можа нават запэўніць спакою ў самым Сайгоне.

Сіла партызан даказала, што зараз не стаіць пытанне: ці амерыканцы могуць аднесці перамогу, але ці могуць адысці, каб не мець вялікіх страт.

А тым часам міністр заграцічных спраў ДРВ у мінулым тыдні яшчэ раз, ад імя свайго ўрада, сказаў, што мірныя перагаворы пачнуцца адразу ж, як толькі ЗША спыняць бамбардзіроўкі ДРВ без якіх-небудзь умоў.

Амерыканская адміністрацыя пакуль што насіляе бамбардзіроўкі і працуе над ваеннымі планамі. Міма запярэчання Белым Домам, сусветная прэса пацвярджае, што Пентагон разважае магчымасць прымянення атамнай зброі, аб чым сведчыць пабыўка ў Паўднёвым В'етнаме групы спецыялістаў па тэрмаядзернай зброі.

### КАНАЛ

Свайго часу гаварылася аб канцэпцыі пабудовы канала, які б спалучыў Дунай і Одру з Балтыйскім морам. Аднак прадстаўнік чэхаславацкага ўрада на прэсканферэнцыі ў Астраве заявіў, што ЧССР «не лічыць пільнымі праблемы звязаныя з будовай канала Дунай - Одра, а планы да 1970 года гэтых праблем не ахопліваюць».

### КРЫТЫКА

У югаслаўскім друку і выступленнях югаслаўскіх палітычных дзеячаў востра скрытыкавана артыкулы балгарскага друку прысвечаныя 90 гадавіне вызвалення Балгарыі ад турэцкага прыгнёту, у якіх абсуджаліся праблемы гісторыі і сітуацыі македонскага насельніцтва пражываючага ў пагранічных раёнах абедзвюх краін.

### ПРАЕКТ КАНСТЫТУЦЫІ

Народная Палата ГДР зацвердзіла праект новай канстытуцыі дзяржавы, які зараз пераказана пад агульнанародную дыскусію. Артыкул I праекта гаворыць: «Германская Дэмакратычная Рэспубліка з'яўляецца сацыялістычнай дзяржавай нямецкага народа. Складае яна палітычную арганізацыю людзей працы гарадоў і вёсак, якія супольна пад кіраўніцтвам рабочага класа і яго марксісцка-ленінскай партыі ажыццяўляюць сацыялізм».

А. К.

## БССР

### БЕЛАРУСІ

Адбыўся VI-ты пленум ЦК камсамола Беларусі.

Пленум прыняў пастанову адносна паляпшэння дзейнасці камсамольскіх арганізацый сярод вучнёўскай моладзі. «Многія камсамольскія арганізацыі яшчэ слаба праводзяць работу па месцу жыхарства школьнікаў, дрэнна арганізоўваюць іх адпачынак і выхаванне пасля вучобы, не прымаюць дзейсных мер па паляпшэнню маральнага выхавання школьнікаў. Часам адсутнічае прынцыповая ацэнка выпадкаў антыграмадскіх паводзін школьнікаў. У радзе месц дрэнна вядзецца атэістычная работа сярод вучняў. Ёсць сур'ёзныя ўпушчэнні ў арганізацыі фізкультурнай і спартыўнай работы з піянерамі і школьнікамі» — між іншым, сцверджана ва ўспамянутай пастанове камсамольскага пленума.

### КАМУНАЛЬНАЙ

У Мінску ўтворана новае міністэрства — Міністэрства камунальнай гаспадаркі Беларускай ССР.

Міністрам назначаны Уладзімір Труноў.

### ПОЛІЭТЫЛЕН

«Ёсць беларускі поліэтылен» — пад такімі загалоўкамі газеты паведамляюць аб першай прадукцыі завода поліэтыленавай вытворчасці хімічнага камбіната ў Наваполацку (паўночная Беларусь).

### МАРКСА

У сувязі з набліжэннем 150-ай гадавіны з дня нараджэння **Карла Маркса** выйдуць з друку ў перакладзе на беларускую мову 4-ты том **«Капітала»**, **«Маніфест Камуністычнай партыі»**, **«Крытыка Гоцкай праграмы»**.

Выдаецца кніга выкладчыка Мінскай палітшколы **І. Шпадарука «Змагары за народную справу»** (таксама на беларускай мове), у якой асвятляецца дзейнасць рускай секцыі 1-га Камуністычнага Інтэрнацыянала.

### «ЗВЯЗДА»

Друкарні **«Звязда»** — 50 гадоў.

У сувязі з гэтай гадавінай ЦК КП Беларусі апублікаваў прывітальнае пісьмо да рабочых і служачых друкарні.

У оперным тэатры адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны пяцідзесяцігоддзю друкарні «Звязда». Прысутнічалі — сакратар ЦК **С. Пілатовіч**, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі **І. Клімаў** і іншыя асаблівасці, а таксама госці з Украіны і Літвы.

Узнагароджана вялікую групу рабочых.

### КАЛІНОЎСКАГА

**«Чырвоная змена»** апублікавала матэрыял мастака **Д. Маслава**, прысвечаны 130-ай гадавіне з дня нараджэння **Кастуся Каліноўскага**.

Аўтар змясціў урывак верша нашага паэта, **Алеся Барскага**, прысвечаны памяці легендарнага **«Кастуся»**.

(С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ПЛАН НА 1967 г.

Галоўнае статыстычнае бюро (т. зв. ГУС) апублікавала паведамленне аб выкананні Нацыянальнага гаспадарчага плана за мінулы год. З паведамлення вынікае, што прамысловая прадукцыя ўзрасла на 7,5 прац., а нацыянальны даход — на 6 працэнтаў, абароты замежнага гандлю ў мінулым годзе ўзраслі на 8 прац., а фонд спажыцця — на 4,5 прац.

З важнейшых прамысловых вырабаў выпрадукавана ў мінулым годзе амаль 124 мільёны тон вугля, 10,5 міль. тон сталі, 29 800 трактараў, 27 700 аўтамашын, 32 200 грузавых самаходаў і 3 891 аўтобусаў.

Прадукцыя сельскай гаспадаркі ўзрасла агульна беручы на 2,3 працэнт (раслінная прадукцыя — на 3,2 прац., жывёльная — на 0,8 прац.). Плёны чатырох збожжавых культур асягнулі 19,3 цэнтнераў з гектара, плошча пасеваў узрасла на 4,7 прац. Колькасць рагатай жывёлы ўзрасла на 3,6 прац., колькасць свіней утрымалася на ўзроўні 1966 года. Пад мінулагоднія пасевы сельская гаспадарка выкарыстала на 21 працэнт больш штучных угнаенняў, чымсьці ў 1966 годзе. Электрыфікаваныя гаспадаркі асягнулі 81 працэнт агульнай колькасці гаспадарак. Зеліяравана 153 тысячы сельскагаспадарчых угоддзяў.

Насельніцтва краіны ў канцы года налічвала 32,1 мільёна асоб, з чаго ў горадзе пражывала крыху больш, як палова — 16,2 мільёна асоб. Лік працуючых у нацыяналізаванай гаспадарцы ўзрос на 3,9 працэнта.

### ЦЭНТР ЗДАРОЎЯ ДЗІЦЯЦІ

7. II. у гмаху Бюро Рады Міністраў у Варшаве адбылося пад кіраўніцтвам Маршала Польшчы Мар'яна Спыхальскага — старшыні Галоўнай рады Сяброў гарцэрства — першае пасяджэнне грамадскага камітэта будовы помніка-цэнтра здароўя дзіцяці. Цэнтр здароўя пабудуецца як помнік геройства і пакутніцтва польскіх дзяцей падчас другой сусветнай вайны і гітлераўскай акупацыі.

### ПІКАСА

У Варшаве адкрыта ўпершыню ў Польшчы вялікую выстаўку карцін Пабло Пікаса — найбольшага мастака нашага стагоддзя.

### ЗАЙЦЫ

Польскія жывыя зайцы на заходніх рынках прадаюцца па 17—18 долараў за штуку. У гэтым сезоне выэкспартавана ўжо 60 тысяч жывых зайцаў у Італію і Францыю. Да канца сезона плануецца выслаць яшчэ 15 тысяч.

### ТАБЛЕТКІ

У першым квартале гэтага года маюць быць закончаны працы над польскай антыканцэпцыйнай таблеткай да піцця. Сродак гэты прадукаваць будзе па арыгінальнай польскай тэхналогіі Еленягурскае фармацэўтычнае прадпрыемства. У продажу таблеткі паявяцца ў канцы гэтага года. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### БЕЛАСТОЦКАЯ ГАСПАДАРКА

Як падае Ваяводская статыстычная кантора, гадавы план агульнай (валавой) прадукцыі за 1967 год дзяржаўная прамысловасць Беластоцкага ваяводства выканала ў 101,9 працэнтаў. У параўнанні да 1966 года наступіў прырост прамысловасці прадукцыі ў 13 прац. 10,6 прац. агульнай прадукцыі мінулага года пайшло на экспарт у пераліку на грошы склала гэта 1 мільярд 464 міль. зл. Сярэдняя зарплата працаўнікоў прамысловасці склала суму ў 1918 зл. і была на 107 зл. вышэйшай як у 1966 годзе.

Сяляне на 2 384 гектары больш засеялі зямлі як у папярэднім годзе. На 43 тыс. штук павялічылася колькасць кароў, а свіней было 1 мільён 134 штук, іх прырост — 4,6 прац. Хлебаробы прадалі дзяржаве 228 200 тон збожжа, гэта значыць, на 16,5 прац. больш як у 1966 годзе. На высокім узроўні ўтрымоўваўся продаж малака. Закуплена яго цэлае возера — 303 міль. літраў.

На Беласточчыне ў мінулым годзе дзейнічала 2 500 сельскагаспадарчых гурткоў, якія аб'ядноўвалі 62 тысячы членаў.

На працягу 1967 года ў 153 вёсках атрымала электрычнае святло 5 779 сялянскіх сяліб. Электрычнасцю карыстаецца зараз у Беластоцкім ваяводстве ўжо 2 670 вёсак, што складае 73 прац. агульнага стану.

На канец варта адзначыць, што вясковы гандаль на 12,2 прац. больш прадаў спіртных напіткаў, як у 1966 годзе.

### ПЕНСІІ

Як вядома Сейм прыняў пастанову аб новай сістэме пенсій для старэйшых і заслужаных людзей. Павышаныя пенсіі былі часткова выплачаны ўжо 30 студзеня. Беластоцкая кантора грамадскіх страхаванняў выплаціла дадаткова 5 тысячам пенсіянерам 739 491 злотых.

### ВОЙСКА І МАСТАКІ

У гэтым годзе ўрачыста адзначаем 25-тую гадавіну Людовага Войска Польскага. Падляшская ваенная часць войск унутранай абароны з гэтай нагоды наладзіла супрацоўніцтва з беластоцкімі мастакамі. Разыходзіцца пра тое, каб мастацкімі сродкамі паказаць жыццё салдат, іх праблемы і баявыя традыцыі Людовага Войска Польскага.

### БЕЛАСТОЦКІЯ МАСТАКІ...

...Мікалай Валкавыцкі, Стэфан Рыбі і Ежы Лянгевіч выстаўляюць свае малюнкі ў Сопаце. Кожнаму з іх наладзілі там індывідуальную выстаўку.

### МАЗАВЕЦКІЯ ВЁСКІ

Сяляне Высокамазавецкага павета шмат чаго сабе будуюць. Аддзел будаўніцтва ПРН у мінулым годзе выдаў аж 751 дазвол на новыя будынкі. (вр)




**NIEDZIELA, 18.II.**

8.50 Program dnia. 8.55 TV Kurs Rolniczy. 9.30 „Przypominamy, radzimy". 9.40 „Trzeci konkurs im. Piotra Czajkowskiego" — film radz. 10.50 PKF. 11.00 „Uciekinier" — film. 11.30 Wiadomości. 11.40 „Argisz wędruje ku słońcu" — film radz. 12.00 Teatrzyk dla Przedszkolaków. 12.45 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble. 15.10 „Przemiany". 15.40 „Żołnierze Ojczyzny" — I część filmu dokument. radz. („Rok 1941"). 16.40 „Z tamtych lat" — (Ludzie i zdarzenia"). 17.00 Teatr Niedzielny: — „Dziewczęta w letnich sukienkach". 18.00 „Zimowy Kraków — nocą" („Piórkiem i węglem"). 18.20 „Sezam muzyczny". 18.55 „Spotkanie z pisarzem". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.00 Zimowe Igrzyska Olimpijskie w Grenoble. Uroczystość zamknięcia. ok. 22.00 Wiadomości sportowe. 22.10 „Teatrzyk Gozdawy i Stępnia".

**PONIEDZIAŁEK, 19.II.**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.15 Politechnika. 16.25 i 23.00 Politechnika TV. 16.55 Wiadomości. 17.00 Kino „Ptyś". 17.15 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.30 Rep. film. z Toskanii. 17.45 „Na zdrowie". 18.05 „Eureka". 18.45 „Kino Krótkich Filmów". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: — „Grube ryby". ok. 21.35 „Próby" — miesięcznik konsumenta. 22.05 Dziennik.

**WTOREK, 20.II.**

10.00 Dla szkół: (kl. III) „Historia szkolnego fartuszka". 10.25 „Drewniany różaniec" — film fab. pol. 11.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski: Bertolt Brecht — „Matka Courage i jej dzieci". 12.40 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze. 13.15 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.45 i 22.30 Politechnika TV. 16.25 i 23.05 Politechnika TV. 16.55 Wiadomości. 17.00 Dla młodych widzów: „Szymon i Kubuś" (I). 17.25 Dla młodych widzów: „Fizyka na piątkę". 17.55 „Nie tylko dla pań". 18.15 TV Kurier Warszawski. 18.30 „Po szóstej". 19.10 „Radar" — filmowy magazyn aktualności wojskowych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Na tropie blagi" — teleturniej. 20.35 „Drewniany różaniec" — film fab. pol. 21.55 „Rozmowy o książkach". 22.10 Dziennik.

**SRODA, 21.II.**

10.00 „Korzeń diabelskiego kopyta" — film. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Fizyka. 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.35 Politechnika TV. 16.25 i 23.10 Politechnika TV. 16.55 Wiadomości. 17.00 Dla dzieci: „Bolek i Lolek na wakacjach" — film. 17.10 PKF. 17.20 „Telekram". 17.30 „Soczi" — film radz. 17.40 „Z kamerą przy siodle" — rep. film. z Kuby. 17.55 Wszechnica TV: „Świat wyobraźni". 18.30 „Sylwetki X Muzy". 19.00 „Rozważania aktualne" — przed kamerą red. H. Korotyński. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Korzeń diabelskiego kopyta" — film. 21.00 „Swiatowid". 21.30 „Tetyda na Skyros czyli Impromptu w Wilanowie". Muzyka — D. Scarlatti. 22.15 Dziennik.

**CZWARTEK, 22.II.**

11.55 Dla szkół (kl. V) Historia: „Chłopi i rycerze". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Język polski: „Stefan Żeromski w Nałęczowie". 13.15 Przerwa. 15.40 Program. 15.45 i 22.25 Politechnika TV. 16.25 i 23.00 Politechnika TV. 16.55 Wiadomości. 17.00 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.20 Teatr Młodego Widza. 18.05 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.35 „Ballada z Via Margutta". („Z kamerą po świecie"). 18.50 „Przegląd Muzyczny". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Pod znakiem jakości". 20.35 Teatr Sensacji: — „Czekam na swego mordercę". 21.35 „Refleksje". 22.05 Dziennik.

**PIĄTEK, 23.II.**

9.55 Dla szkół (kl. lic.) Wychowanie obywatelskie. 10.25 „Ojcowie i dzieci" — film fab. radz. 12.00 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Zajęcia techniczne: „Mój pojazd mechaniczny". 13.15 Przerwa. 15.40 Program. 15.45 i 23.00 Politechnika TV. 16.25 i 23.35 Politechnika TV. 16.55 Wiadomości. 17.00 Dla dzieci: „Zręczne ręce". 17.15 Kino Filmów Amatorskich. 17.45 „Klub Dobrych Gospodarzy". 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 „Gorąca linia" (Katowice — Gdańsk). 19.00 „Śpiewa Stella Osuchowska". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Kontakty". 20.35 Teatr TV. A. Strindberg: „Panna Julia". 21.50 „Dialogi historyczne". 22.20 „Pejzaże". 22.40 Dziennik.

**SOBOTA, 24.II.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Geografia: „Włochy". 10.25 „Nie ma autostrad w chmurach" — film fab. USA. 12.00 Dla szkół (kl. VII) Zoologia: „Płazy". 12.25 Przerwa. 15.50 Program. 15.55 TV Kurs Rolniczy. 16.30 Program Tygodnia. 16.55 Wiadomości. 17.00 Dla młodych widzów: „Konkurs pięciu milionów". 17.50 „W przestworzach, czyli ciekawe opowieści lotników". 18.05 „Spotkania z przyrodą". 18.30 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 „Monitor". 20.10 „Almanach" — przegląd artystyczno-kulturalny. 20.40 T. Kwiatkowski: „Coś z Freuda" — program rozrywkowy. 21.25 Dziennik. 21.40 Wiadomości sportowe. 21.50 „Nie ma autostrad w chmurach" — film fab. USA.




**Piątek, 16 lutego**

8.15 „Pluskwa". Film. 9.00 Olimpiada (łyżwy, sztafeta narciarska). 14.50 „Nowiny". 15.05 J. ang. dla przedszkolaków. 15.30 „Technika drugiego półwiecza". 16.00 Dla uczniów. 16.30 „Dowódcy strzał srebrnych". Film. TV. 17.00 Teatr miniatur: „13 krzeseł". 18.00 „Nowiny". 18.10 Na muzycznej fali. 18.15 Sztafeta nowin. 19.00 Olimpiada. Jazda figurowa.

**Sobota, 17 lutego**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dla studentów. 9.45 J. ang. dla przedszkolaków. 10.10 Szkatułka muzyczna. 10.30 Film animowany dla dzieci. 11.30 „Desant". Film. 12.00 TV barwna. 13.30 TV teatr dla dzieci. 14.30 Olimpiada. Łyżwiarstwo. 15.00 „Gdzie jesteś, kapitanie Tatiano?" 15.30 Film krótkometrażowy. 16.00 Klub Filmowy. 16.45 „Płomyk". 17.30 Olimpiada. Hokej. Czechosłowacja — Szwecja. 20.00 Przegląd cyrkowy. 21.00 Olimpiada. Hokej. ZSRR — Kanada.

**Niedziela, 18 lutego**

6.30 Dla studentów. 7.00 Gimnastyka. 7.15 „Budzik". 7.45 Dziennik. 8.00 „Mój brat, który stracił rozum". Spektakl teatralny. 10.30 „Poznajcie się, Mińsk". 11.30 Dla żołnierzy. 12.00 TV barwna. 12.45 Olimpiada. Skoki narciarskie. 15.00 Kiosk muzyczny. 15.30 Gawędy o bahaterstwie. 16.00 „Sztuka białoruska". 16.45 „Kronika bez sensacji". 17.05 O olimpiadzie zimowej mówi arcymistrz A. Suetin". 17.20 „Blask za kotarą". Film. 18.45 Siedem dni. 19.30 W eterze — „Młodość". 20.00 Uroczyste zakończenie Olimpiady zimowej.

# Максім Гарэцкі

Сёлета спаўняецца 75 год ад дня нараджэння (19 лютага 1893) М. Гарэцкага, выдатнага беларускага пісьменніка, гісторыка беларускай літаратуры, крытыка, педагога, публіцыста. Праз 46 гадоў свайго працавітага жыцця, з якога толькі частка была аддадзена літаратурнай працы, М. Гарэцкі ўзбагаціў беларускую культуру і навуку значнымі і трывалымі пазіцыямі. Пісьменнік пакінуў у спадчыне нашчадкам залаты фонд сваіх думак і разваг, праблем і ідэй, сёння яшчэ жыццёвых і актуальных...

Мы, на жаль, яшчэ не ведаем, што ўваходзіць поўнасцю ў літаратурную і навуковую спадчыну пісьменніка.

Паводле спісу твораў, уложанага самім пісьменнікам, выглядае, што ён напісаў звыш 70-ці пазіцый, у гэтым некалькі дзесяткаў апавяданняў, некалькі аповесцей, знамянітую «Гісторыю беларускай літаратуры», «Хрэстаматыю бел. літаратуры», «Выпісы з бел. літаратуры» і іншыя навуковыя працы. Пісьменнік надрукаваў дзесяткі публіцыстычных артыкулаў. Некаторыя творы пісьменніка ў сваім часе выдаваліся і перавыдаваліся. Літаратурная і навуковая спадчына М. Гарэцкага, на жаль, дасюль належным чынам нявывучана. У сваім часе на асобныя творы, калі яны паяўляліся ў друку, былі пісаны і друкаваны рэцэнзіі, крытычныя артыкулы. Усё гэта параскідана па газетах, часопісах, журналах і сёння ўсё гэта — бібліяграфічная рэдкасць.

Максім Гарэцкі належаў да старэйшага пакалення беларускіх пісьменнікаў. Ён на адзінаццаць год маладзейшы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Разам з імі супрацоўнічаў і друкаваўся ў беларускай газеце «Наша ніва» (газета выдавалася ў Вільні ў 1906—1915 гадах), разам з імі ствараў і актыўна ўдзельнічаў у нацыянальна-культурнай плыні, т. зв. «Беларускага адраджэння», разам з імі і іншымі пісьменнікамі, пасля перамогі Вялікага Кастрычніка плённа папрацаваў для ўзбагачэння беларускай савецкай літаратуры, культуры, навукі.

Творы пісьменніка, розныя паводле жанру, арыгінальныя паводле літаратурнай формы і стылю, дыхаюць жыццёвай праўдай, працінёй, шчырасцю, пераканаўчасцю, народнасцю. Яны змястоўныя, насычаны высокай мараллю, народнай мудрасцю, філасофіяй, эстэтыкай, глыбокія думкай, ідэяй. Ужо першы самы ранні зборнік апавяданняў пісьменніка, выдадзены ў Вільні ў 1914 годзе, азначаны гэткімі прыкметамі і больш як трэба даказвае, што ў асобе Максіма Гарэцкага прыйшоў у беларускую літаратуру арыгінальны, таленавіты пісьменнік.

Асноўнымі пытаннямі і заданнямі беларускай літаратуры ў дакастрычніцкім перыядзе, г.з. у перыядзе «Нацыянальна-культурнага адраджэння», былі: вызваленне сацыяльнае і нацыянальнае беларускага народа ад прыгнёту памешчыкаў і капіталістаў, ад самадзяржаўнага рэжыму рускіх цароў; замацаванне і развіццё ў беларускім народзе нацыянальнай самасвядомасці, і разам з гэтым пачуцця нацыянальнай і сацыяльна-класавай годнасці; высілі работу над тым, каб беларускі народ усвядоміў сваю самабытную нацыянальную індывідуальнасць, сваю багатую гісторыю, свой лёс і перспектывы на будучыню...

Беларускія пісьменнікі-патрыёты таго перыяду у сваіх творах выконвалі гэткія высакародныя заданні. Рабіў гэта і Максім Гарэцкі. Пісьменнік - рэаліст, выдатны псіхолаг і знаўца свайго працоўнага народа, усебакова ў сваіх мастацкіх творах прадставіў жыццё і імкненні беларускага, роднага яму сялянскага народа. Ягоныя творы таго перыяду — гэта яркія літаратурна-мастацкія дакументы, жывыя ілюстрацыі сацыяльнага і нацыянальнага цярпення беларусаў, жывыя карціны жыцця і побыту народа.

Значны лік твораў напісаў пісьменнік у паслякастрычніцкім, савецкім перыядзе. Асаблівую цікаўнасць мы праяўляем да «Віленскіх камунараў», аповесці, значнага твору, напісанага на віленскім матэрыяле і закончанага ў 1932 годзе, у г. Вятцы.

У аповесці «Віленскія камунары» апісана жыццё гарадскога пралетарыята, прадстаўлены рэвалюцыйны рух, барацьба віленскіх рабочых за звяржэнне самадзяржаўнай улады рускіх цароў.

І самае галоўнае ў творы — барацьба за савецкую уладу ўзначаленую камуністамі. У творы ярка і канкрэтна, на жыццёвым матэрыяле выражана ідэя дружбы і супрацоўніцтва паміж прадстаўнікамі розных нацыянальнасцей горада. Праўдзіва паказаны палітычныя сілы, іх узаемаадносіны і барацьба.

Многія персанажы твора сапраўды жылі, працавалі, бралі актыўны ўдзел у грамадска-палітычным і культурным жыцці горада. Пісьменнік даў цэлую галерэю персанажаў, выпісаў іх эскізныя партрэты, характэрныя рысы, іхні ідэйны воблік і светапогляд. Надзвычай цікавыя ў творы карціны, у якіх прадстаўлена рэвалюцыйная дзейнасць віленскіх камунараў.

І. Шутовіч



Вакальна-харэаграфічная кампазіцыя «Брэсцкая крэпасць» у выкананні ўдзельнікаў салдацкай мастацкай самадзейнасці горада Мінска.

# НАШЫ ДАСЯГНЕННІ

(Працяг са стар. 1)

Дасягненні БГКТ у галіне культурна-асветнай дзейнасці скарочана паказвае чарговая табліца:

| № | Аддзелы | Даклады | Гутаркі | Радыё-гутаркі | Фільмы | Фота-выст. | Кніжак у біб. БГКТ | Сярэднегадавая падп. „Нівы" |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Беласток | 11 | 10 | — | 45 | 12 | 4342 | — |
| 2. | Бельскі | 45 | 22 | 10 | 40 | 48 | — | 1241 |
| 3. | Гайнаўскі | 45 | 39 | 20 | 53 | 74 | — | 2128 |
| 4. | Гарадоцкі | — | 4 | 8 | 12 | 16 | — | 300 |
| 5. | Варшаўскі | 6 | — | — | — | 3 | 1560 | — |
| 6 | Дуброўскі | — | 2 | 15 | 12 | 35 | — | 13 |
| 7. | Мілейчыцкі | 6 | 53 | — | 31 | 57 | 553 | 219 |
| 8. | Міхалоўскі | 2 | 6 | — | 22 | 30 | — | 251 |
| 9. | Сакольскі | 9 | 17 | 6 | 35 | 49 | 693 | 222 |
| | Разам: | 124 | 153 | 59 | 270 | 324 | 7148 | — |

Да гутарак улічаны кароткія выступленні дакладчыкаў перад мерапрыемствамі БГКТ (фільмамі, эстрадай, амат. калектывамі). Лік радыёгутарак значна паменшыўся, а лікі фільмаў і фотавыставак узраслі ў 2 разы, дзякуючы супрацоўніцтву з ТППР, Домам савецкай культуры ў Варшаве і Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі ў Мінску, якія забяспечылі БГКТ у адпаведныя матэрыялы. Кнігазбор бібліятэк Таварыства, не гледзячы на атрыманне і пакупку новых кніжак у колькасці звыш 600 штук (у тым ліку амаль палову падарыў нам Саюз пісьменнікаў БССР) амаль не павялічыўся. Бібліятэкі Бельскага, Гайнаўскага і Міхалоўскага аддзелаў знаходзіліся ў распараджэнні публічных бібліятэк.

У пашырэнні пачытнасці беларускай кніжкі далей вялікае значэнне мелі выданні ГП БГКТ. Мясцовая праблематыка, вядомыя ўсім аўтары, нізкая цана спрыялі хуткаму іх распаўсюджанню праз арганізацыю і школы. На працягу года (без продажу праз дамы кніжкі) звыш 9000 кніжак на агульную суму 62 200 злотых, з гэтага амаль на 20 000 зл. у Гайнаўскім пав.

У справаздачным годзе аднатавана далейшы прагрэс у развіцці аматарскага руху. Рух гэты ў паасобных паветах паказвае наступная табліца:

| № | Аддзелы | Аматар. калек. | Лік удзельнікаў | Вялікія хар. калектывы | Лік канцэрт „Лявоніхі" | Агульны лік усіх канцэрт |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Беласток | — | — | — | 6 | 9 |
| 2. | Бельскі | 26 | 290 | 1 | 31 | 180 |
| 3. | Гайнаўскі | 18 | 215 | 1 | 30 | 136 |
| 4. | Гарадоцкі | 4 | 48 | 1 | 7 | 11 |
| 5. | Варшаўскі | 1 | 36 | 1 | — | 2 |
| 6. | Дуброўскі | — | — | — | 2 | 2 |
| 7. | Мілейчыцкі | 12 | 130 | — | 18 | 80 |
| 9. | Міхалоўскі | — | — | — | 10 | 10 |
| 9. | Сакольскі | 5 | 60 | — | 32 | 50 |
| 10. | Гданьск | 1 | 6 | — | — | — |
| | Разам: | 67 | 785 | 4 | 136 | 480 |

Асноўнай цяжкасцю быў далей недахоп адпаведна падрыхтаванай інструктарскай кадры і рэпертуару, а ў эстрадзе ГП «Лявоніха» — перыяд поўнай яе рэарганізацыі. Найвялікшую папулярнасць здабыў хор Бельскага аддзела БГКТ, які выступаў 19 разоў, у тым ліку на павятовых акадэміях, у дзень свята чыгуначнікаў у Чаромусе, для ўдзельнікаў міжваяводскай нарады працаўнікоў МСВ у Супраслі і іншых мясцовасцях.

Шматлікія конкурсы, канферэнцыі, падрыхтоўка да друку публікацый, фестывы, агляды і г.д., аб якіх даволі шырока на працягу ўсяго года інфармавала чытачоў «Ніва», выпаўнілі апошні час актыўны і штатных працаўнікоў БГКТ.

Сакратар ГП БГКТ
Ул. Юзвюк




### ПЕСНЯ ПРА ГЕРОЯЎ БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

Над Брэстам у небе ласкавым
Празрыстыя хмаркі плывуць...
Як помнікі воінскай славы,
Фарты* крэпасныя ўстаюць.

Сурова ўстаюць успаміны...
Над Бугам і ноччу і днём
Ірвуцца снарады і міны,
Казармы палаюць агнём.

Змагаюцца мужна салдаты...
Прабіцца не суджана ім...
Сястра не рыдае над братам,
І маці — над сынам сваім.

Сваю дарагую краіну
Вайцы засланілі сабой...
І ночы і дні несупынна
Грыміць, не сціхаючы, бой.

Выходзяць запасы патронаў,
Не стала ні кроплі вады...
Ахуталі ўсе бастыёны*
Агонь і удушлівы дым.

Радзеюць, радзеюць салдаты
У бітве няроўнай, цяжкой.
Пад выбух апошняй гранаты
Змаўкае апошні герой.

І крэпасць з фартамі сваімі
Застыла ад гора-тугі...
Радзіма схіліла над імі
Свае баявыя сцягі.

Над Брэстам у небе ласкавым
Празрыстыя хмаркі плывуць...
Як помнікі воінскай славы,
Фарты крэпасныя ўстаюць!..

**Алесь Бачыла**

1. Каму прысвечаны гэты верш?
2. За што змагаліся і як загінулі савецкія салдаты?
3. Сабярыце матэрыял да школьнай насценгазеты «Брэсцкая крэпасць — крэпасць-герой».

**Біяграфічная даведка**

Алесь Бачыла. — Сучасны беларускі паэт. Нарадзіўся ў 1918 годзе ў сялянскай сям'і. Напісаў рад тэкстаў песень, якія набылі шырокую папулярнасць.

**Слоўнік**

Форт — умацаванне (частка крэпасці ці самастойны апорны пункт), якое прызначана для абароны.

Бастыён — старадаўняе ўмацаванне: пяцівугольны выступ вала або крэпасной сцяны для вядзення бакавога агню.

# Паэзія дружбы

**Агульнапольскі рэцытатарскі конкурс школьных гурткоў прыяцеляў СССР**

50-ая гадавіна Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і 50-ая гадавіна існавання Камсамола прысвячае конкурсу, які аб'явіў ТППР для школ на 1967/68 школьны год. Конкурс працягваецца ўжо ад снежня, а закончэнне яго будзе ў канцы мая г. г. Тады адбудзецца цэнтральны агляд у Кашаліне, дзе выступіць па чатыры асобы з кожнага ваяводства — найлепшых. Конкурс праходзіць у двух кірунках: моладзі пачатковых школ і моладзі сярэдніх школ усіх тыпаў.

Хочучы прыняць удзел у конкурсе трэба падрыхтаваць тры рэцытацыі з паэзіі польскай, рускай і савецкай, звязаных з дружбай і братэрствам абодвух народаў. Дабіраць трэба вершы новыя «неаклепаныя» — гэта будзе цаніцца. Узнагароды ад 2 тысяч да 400 зл. Усе рэчавыя. (вл)




# ФРОНТ ДЗЯДЗЬКІ АЛЯКСЕЮКА

Расказваем пра ваенны лёс нашых землякоў, якім давялося служыць пад чырвонай зоркай, пра іх баявыя заслугі, пра нягоды вайны.

Пры ўсім гэтым нельга забываць, што Савецкая Армія нарадзілася ў кровапралітных баях за ўтрыманне і замацаванне перамогі Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года, што завязкай яе была Чырвоная Гвардыя, што перамога салдат на перадавой рашалася таксама ў тылу, дзе сотні тысяч зусім ціхіх воінаў змагалася дзеля гэтай перамогі.

Такім быў Сяргей Аляксеюк з вёскі Паўлы ў Бельскім павеце. Зараз яму ўжо 78 год. Дзядуля любіць расказваць пра сваё салдацкае мінулае.

— Найперш, — кажа, — прышлося мне ваяваць за цара бацюшкі. Фронт надоўга замацаваўся на адным месцы. Мы ў сваіх акопах, а немцы — у сваіх. Як краты ў зямлі. Надаела ўсім гэтая вайна. Салдацкія вошы аднолькава грызлі і нас, і іх. Памятаю, — было гэта на Вялікдзень. Вылезлі мы з акопаў. Не, не ў атаку, — гаворыць дзядуля і смяецца бяззубымі вуснамі. — Пайшлі павіншаваць нямецкіх салдат са святам. Значыць збраталіся мы з імі.

Пасля Сяргей Аляксеюк трапіў у 87 полк пяхоты ў горад Рыбінск.

— Наш полк, — успамінае, — адразу перайшоў на бок чырвоных. Мы хутка авалодалі горадам, хаця царская паліцыя не хацела здавацца без бою. За супраціўленне нам заплаціў галавой паліцэйскі камендант горада Рыбінска, нейкі палкоўнік. Мяне тады салдаты выбралі ў члены рэвалюцыйнага камітэта нашай роты.

Дзядуля апавядае яшчэ, як іх рэвалюцыйны камітэт арганізаваў Чырвоную Гвардыю, як раздаваў рабочым зброю і боепрыпасы, каб яны не дасталіся ў рукі белых.

Салдацкі рэвалюцыйны камітэт аб'явіў дэмабілізацыю і Сяргей Аляксеюк апынуўся ў станіцы Маныч пад Растовам на Дану, у сваіх родзічаў, якія былі там у бежанстве.

— Тут ледзь не папаў я ў рукі дзянікінцаў. Прышлося хавацца. А калі іх прагналі, я ўступіў у чырвоную міліцыю. Ваявалі мы з бандамі Антонава. Аднойчы, памятаю, едзем па заданню. Увайшлі ў глыбокі яр, а тут як не наскочаць на нас антонаўцы! Сем таварышаў нашых злавілі. Адзін быў нашым земляком, з вёскі Арэхавічы ў Бельскім павеце. Пасля знайшлі мы іх, няшчасных, з падрэзанымі горламі і вуснамі запханымі зямлёй. Мела гэта абазначаць паводле антонаўцаў: «Вось вам зямля і вось вам воля».

Калі пакончылі з Антонавым, Сяргея Аляксеюка пераводзяць у Чырвоную Армію — да будзённаўцаў.

— Будзённага пабачыць мне не ўдалося, але травы для коней яго арміі я столькі накасіў, што хіба для цэлай нашай вёскі на сто год хапіла б... Гэта трудавым фронтам называлі. І салдатам харчаванне я таксама рыхтаваў. Не лёгка прыходзілася дабываць тады ежу. Людзі пухлі з голаду.

Змяняліся франты і змяняліся жаданні ў Сяргея Аляксеюка.

Пасля дэмабілізацыі ў 1921 годзе Сяргей Аляксеюк разам з іншымі бежанцамі вярнуўся ў родную вёску.

**В. Рудчык**

# ПІЙЦЕ ВІНО, АЛЕ НЕ ЎПІВАЙЦЕСЯ

Гэты біблейскі дэвіз можна было б патрактаваць як ідэю дзейнасці Грамадскага супрацьалкагольнага камітэта. Камітэт, як грамадская арганізацыя, ані не прапагуе абсалютнай абстыненцыі, ані не складаецца з людзей, якія абсалютна не п'юць. Камітэт прапагуе ўмеранасць у піцці і змагацца са звычкай п'янства.

Дзейнасць супрацьалкагольнага камітэта вынікае са страшэннай, роспачнай карціны, да якой даводзіць чалавека п'янства. Ніхто не бачыць лепш гэтай карціны, чымсьці дзеячы камітэта, якія сутыкаюцца з людзьмі, кінутымі дурной прывычкай піцця алкаголю на самае дно жыцця. Людзі гэтыя зусім знішчаныя псіхічна і біялагічна, сямействы іх даведзеныя да крайняй нястачы, дзеці абарваныя і запалоханыя. Нават падтрымка такім сямействам немагчымая — п'яніцы карыстаюць з яе для паглыблення свайго п'янства.

Асноўная мэта супрацьалкагольнага камітэта — перасцерагаць людзей перад дарогай да такога стану, устрымаць развіццё гэтай страшэннай хваробы, якая называецца алкагалізмам. Мэту гэтую камітэт імкнецца асягнуць дарогаю рознага тыпу супрацьалкагольнай прапаганды. Адной з форм гэтай прапаганды з'яўляецца літаратура. Камітэт выдае мноства рознага роду кніжак напісаных лекарамі — спецыялістамі, якія паказваюць людзям шкоднасць алкагалізму. Кніжкі гэтыя распаўсюджваюцца рознымі формамі зусім бясплатна. Выкарыстоўваюцца таксама іншыя формы прапаганды, як, напрыклад, асветныя фільмы, плакаты, гутаркі, рознага тыпу гульні і г.д.

Статыстыка камітэта найлепш сведчыць аб размерах праведзенай у гэтай галіне працы. Так, напрыклад, у І палове мінулага года дакладчыкі камітэта прачыталі 1443 гутаркі на супрацьалкагольныя тэмы ў розных гарадах і вёсках нашага ваяводства. У тым самым часе прадэманстравана 383 кінакарціны на антыалкагольныя тэмы і наладжана 104 рознага роду мерапрыемствы спалучаныя з гульнямі: як конкурсы, «згадуй-згадулі» і г. д. Агульная колькасць людзей прымаўшых удзел у такіх мерапрыемствах складае суму звыш 63 тысячы асоб. Калі ж разыходзіцца аб антыалкагольную літаратуру, то распаўсюджана на тэрыторыі ваяводства каля 21 тысячы кніжак і мноства іншых прапагандных матэрыялаў.

Мэтай усяго гэтага з'яўляецца, як мы ўжо сказалі, пераканаць людзей, якія не з'яўляюцца алкаголікамі, у шкоднасці алкагалізму, перасцерагчы іх перад гэтай хваробай.

Што аднак рабіць з тымі, якія трапілі ўжо ў палон дурной звычкі — алкагалізму. Старшыня супрацьалкагольнага камітэта, пракурор Ежы Бэкасінскі, з якім гутарым на гэту тэму, раскладае рукі. Сродкі дзеяння камітэта ўласціва канчаюцца на гэтай прафілактычнай прапагандзе, якай уласцівыя вынікі, па-праўдзе, зусім невядомыя. Актывісты камітэта прабавалі некалькі разоў весці гутаркі для хворых ужо на алкагалізм п'яніц. Спробы гэтыя кончыліся аднак няўдачай. П'яніцы не хацелі нават выслухаць даклада лекара — спецыяліста перабіваючы яму непрыстойна. Аб тым, каб вылечыць кагосьці з дурной звычкі, аднымі толькі гутаркамі хіба ніхто і не марыць.

У сямействах п'яніц надалей дзеюцца трагедыі, пазбаўленыя працы і памяшканняў п'яніцы жывуць з жабраніны, начуюць у забытых людзьмі падвалах і парках. У кожным павеце дзейнічаюць т. зв. лекарска-грамадскія камісіі да кваліфікавання алкаголікаў на прымусовае лячэнне. Ва ўсім ваяводстве назбіралася каля 800 такіх безнадзейных п'яніц, для якіх адзіным ратункам было б прымусовае лячэнне ў замкнутых лекарска-выхаваўчых установах. Камісіі зрабілі сваё: прызналі каля 800 асобам прымусовае лячэнне, як адзіны выхад. Асобы гэтыя надалей аднак п'юць, крадуць, жабруюць, знуткоўваюцца над сямействамі. Прычына простая: п'яніц у нашым ваяводстве няма дзе лячыць. У Харошчы прызначана п'яніцам усяго 20 месцаў, што з'яўляецца пагаворачнай кропляй у моры алкаголю.

З гэтай менавіта прычыны Грамадскі супрацьалкагольны камітэт у апошнім годзе ўсе свае намаганні накіраваў на тое, каб у Беластоку пабудаваць лекарска-выхаваўчы цэнтр для алкаголікаў. На конце Ваяводскай рады нарадовай назбіралася каля паўтара мільёна злотых, якія з года ў год прызначаліся на антыалкагольныя акцыі і з розных фармальных прычын не выкарыстоўваліся. Дзякуючы ініцыятыве старшыні супрацьалкагольнага камітэта пракурора Бэкасінскага сродкі гэтыя будуць пераказаны на пабудову цэнтра. Такім чынам ёсць ужо з чаго пачынаць. Плануецца, што цэнтр пабудаваны будзе ў 1970 годзе. Калі б так сталася, супрацьалкагольная дзейнасць на Беласточчыне выйшла б з рамак чыста прапагандных акцый і набрала б многа больш рэальнага аблічча.

**Ул. Паўлючук**

## НАЙЛЕПШЫЯ ВЯСКОВЫЯ КЛУБЫ І СВЯТЛІЦЫ

У Моньках адбылося падсумаванне конкурсу на найлепшыя вясковыя клубы і святліцы за 1967 год.

### УЗНАГАРОДЫ АТРЫМАЛІ:

**У катэгорыі клубаў:**

Дзве І — Клуб «Рух» у **Крамкоўцы Малой** у Мазавецкім павеце і клуб «Рух» у **Баршчэве,** Беластоцкі пав.

II узнагарода — **Страбля** ў Бельскім павеце.

III — **Штабін** у Аўгустоўскім павеце.

**У катэгорыі грамадскіх цэнтраў культуры.**

І ўзнагарода — **Саколы** ў Лапскім павеце,

II ўзнагарода — **Пагажалкі** ў Беластоцкім павеце,

III узнагарода — **Кузніца** ў Сакольскім павеце,

IV — **Бані Мазурскія** ў Голдапскім павеце.

**У катэгорыі святліц:**

І узнагарода — **Страдуны** ў Элцкім павеце,

II ўзнагарода — **Белавежа** ў Гайнаўскім павеце.

III ўзнагарода — **Снядова** ў Лапскім павеце.

У конкурсе 1967 года прыняло ўдзел 386 клубаў і святліц.

1.І. 1968 года быў аб'яўлены такі ж конкурс на новы год. Працягвацца будзе да 30 верасня. Хто будзе найлепшым у 1968 годзе? (вл)

## БЕЛАСТОК У РЫСУНКУ Г. ВІЛЬКА

Папулярныя і вельмі сімпатычныя тэлеперадачы «Пяром і вугальком» вядомы ўсім. Захапляемся, калі прафесар Віктар Зін на нашых вачах — цяхцях — і рысуе табе дом, палац, вежу, замак.

У Беластоку жыве таксама архітэкт, які такой жа тэхнікай прадстаўляе нам наш Беласток — стары і новы, ды заўсёды прыгожы. Гэта **Генрык Вільк.** Выдаў ён вось альбом сваіх рысункаў пад загалоўкам «Беласток». Вельмі прыемная кніжачка, а рысункі Генрыка Вілька цікавяць і многаму вучаць. (вл)




## РАЗВІЦЦЁ КАПІТАЛІЗМУ І ПАЧАТКІ РАБОЧАГА РУХУ Ў БЕЛАРУСІ

Пасля рэформы ў Беларусі дзве трэціх зямлі засталося ва ўладанні памешчыкаў, і толькі адну трэцюю было дазволена выкупіць сялянам. У выніку на кожнага памешчыка ў сярэднім выпадала 2300 дзесяцін зямельнай плошчы, сяляне ж мелі такія малыя надзелы, што на іх немагчыма было ўтрымаць сям'ю і весці самастойную гаспадарку. Частка сялян арандавала зямлю ў памешчыкаў за вельмі высокі адробак на панскім полі. Частка наймалася да працы ў панскіх маёнтках і станавілася сельскагаспадарчымі рабочымі. Аднак у панскіх маёнтках таксама не хапала працы. Таму сотні тысяч сялян пакідала свае мізэрныя гаспадаркі і падавалася ў пошукі ў гарады, на будовы чыгунак, сплавы дрэва па рэках, выязджала ў шахты Данбасу і іншыя прамысловыя раёны Расіі.

Хутка ішло расслаенне сялян на беднякоў, якія жылі са свае працы ў памешчыкаў і заможных сялян, і багатае сялянства, якое наймала да працы ў сваіх гаспадарках беднякоў, набывала сельскагаспадарчыя машыны, скупоўвала зямлю ад збяднелых сялян і памешчыкаў.

У памешчыцкіх маёнтках і заможных сялянскіх гаспадарках вырошчвалася многа бульбы, ільну, канапель, гадавалася вялікая колькасць малочнага быдла і свіней. Гэтая прадукцыя ішла на далейшую пераробку ў броварах, крухмальнях, алеярнях, маслабойнях, сыраварнях, ятках, гарбарнях і тэкстыльных прадпрыемствах. У развіцці спажывецкай прамысловасці Беларусь выйшла на адно з першых у Расійскай дзяржаве.

Развіццё капіталістычнай гаспадаркі выклікала патрэбу выгодных і хуткіх сродкаў зносін. Разгарнулася буйная пабудова чыгунак. Праз беларускія землі прайшлі чыгункі з Пецярбурга ў Варшаву, з Рыгі ў Арол, з Масквы ў Брэст, з Лібавы ў Ромны, з Брэста ў Гомель, з Баранавіч у Беласток і іншыя. Па колькасці чыгуначных ліній Беларусь заняла другое, пасля Польшчы, месца ў Расійскай дзяржаве. Гэта надта спрыяла развіццю прамысловасці, гандлю, сельскай гаспадаркі і росту гарадоў на беларускіх землях.

Разам з адменай прыгоннага права заняпалі мануфактуры. У новых умовах з вялікім размахам паўставалі капіталістычныя фабрыкі, у якіх працавалі вольнанаёмныя рабочыя. У Беларусі не былі знойдзены такія карысныя выкапні, як жалезная руда, вугаль, нафта. Капіталісты засноўвалі тут прадпрыемствы лёгкай прамысловасці, тэкстыльныя, суконныя, гарбарскія, дрэваапрацоўчыя, табачныя фабрыкі, а таксама бровары, цагельні, тартакі, паперні. Гэтыя прадпрыемствы прыносілі капіталістам вялікія даходы.

У канцы XIX стагоддзя ў Беларусі было звыш 800 прадпрыемстваў. Пераважна былі яны невялікімі, аднак сярод іх знаходзілася шмат і такіх, у якіх працавала па звыш 500 рабочых. Вялікімі і добраабсталяванымі былі таксама чыгуначныя майстэрні ў Гомелі, Пінску і іншых гарадах.

Колькасць гарадскога насельніцтва ў Беларусі падвоілася.

Адначасова з развіццём капіталізму фармаваліся ў Беларусі два варожых сабе грамадскія класы: буржуазія і рабочы клас. Лік рабочага класа з кожным годам хутка павялічваўся. Ён стаў самым рашучым і паслядоўным змагаром супроць царскага самадзяржаўя і капіталістычнага прыгнёту.

Рабочы клас Беларусі знаходзіўся ў вельмі цяжкім становішчы. Рабочыя вымушаны былі працаваць па 13—14, а ў некаторых фабрыках нават па 16—18 гадзін у суткі. Іх за-

# КЛЯШЧЭЛЕЎСКІ ПРЫКЛАД

(Працяг са стар. 1)

прыгожую літаратуру.

— Вашы бібліятэчныя пункты маеце ў ...?

— Залешаны, Сухавольцы, Сакі, Дабрывода, Дашы, Жукі, Паграбы, Грушка. У Залешанах — гэта мой новы пункт. Арганізавала яго ў маі мінулага года на Дні асветы, кніжкі і друку.

— А ўсё ж гэтыя Залешаны, а таксама Сухавольцы, Сакі і ўвогуле ўсе вашы пункты на чале з Грамадскай бібліятэкай у Кляшчэлях вельмі добра выпалі ў конкурсе «Беларуская кніжка ў руках масавага чытача». Усе выказванні на купонах былі надзвычай цікавыя.

— Так. Гэты конкурс вельмі раскруціў зацікаўленне беларускай кніжкай у нас.

— Гэта доказ таксама таго, што добра папрацавала бібліятэка, што бібліятэка мае поспехі.

— Поспехі — гэта праца. Калі працуецца, заўсёды нешта выходзіць.

— На стол вылажыце тады вашы іншыя поспехі.

— Вялося спаборніцтва паміж бібліятэкамі на 50-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі. Мая бібліятэка адзіная ў павеце здабыла пахвалу. У конкурсе «Культура і здароўе асновай сям'і» занялі мы ў павеце першае месца.

— У вас тут працуе Грамадскі пункт культуры. Ці бібліятэка мае з гэтага карысці?

— ГРН дае нам з бюджэтных надвыжак на пакупку кніжак. На гэты год прызналі 6 тыс. зл. на кніжкі і каля 6 тыс. на бібліятэчныя шафы для пунктаў. Дагэтуль у пунктах было па-розначу. У Саках вось Аліна Адамец — дзяўчына з восьмага класа, вывучае беларускую мову, вядзе бібліятэчны пункт. Вельмі добра вядзе. Кніжкі бібліятэчныя трымала ў пакаёвым крэдэнсе, куды, зразумела, не можна было палажыць нічога іншага. Гэтая дзяўчына за дасягненні ў спаборніцтве між бібліятэкамі атрымала І узнагароду, а за дасягненні ў конкурсе «Здароўе і культура» — грашовую ўзнагароду.

*

У кляшчэлеўскай бібліятэцы прыемна і цёпла. Ідэальны парадак. Чытальня пры бібліятэцы, вольны доступ да кніжак. І пані Надзя Бахонэк, якая многа працуе з кніжкай і яе чытачамі. Муж часам знервуецца і а 9 гадзіне вечара прыходзіць, каб запытаць жонку: ты да каторай працуеш? (Як бы не ведаў, што толькі да 7-ай). Тады вяртаецца Надзя Бахонэк у сваю кватэру.

**Вера Леўчук**

# У ГАЛАДАХ

Выпісалася ўжо шмат чарніла і друкарскай фарбы аб камасацыі, палосках, вельмі нізкай ураджайнасці з гектара зямель, усходніх паветаў Беластоцкага ваяводства перш за ўсё. Што гэта праўда, хіба няма ніякіх сумненняў, і на гэта складаецца многа прычын ад нас незалежных **і залежных**. Будучы на рознага тыпу мерапрыемствах у ваяводстве, паветах, грамадах і вёсках чулася ўсё адно — хай нам толькі вышэйшыя ўлады дадуць. І тады сапраўды адчувалася, што ў такім выпадку дык Беласточчына пакажа, як умее гаспадарыць. Цэнтральныя ўлады **далі** ваяводскім, а тыя паветам і г. д. і аказалася, што штучных угнаенняў у некаторых мясцовасцях не раскуплівають гаспадары. Улады пачалі мець больш клопатаў, як мелі, што замест патрабаваць, вымушаны былі тлумачыцца, чаму ўгнаенні не разыходзяцца.

Справа сталася больш яснай пасля **IX Пленума ЦК ПАРП**, які чарговае сваё пасяджэнне прысвяціў справам далейшага развіцця сельскай гаспадаркі. Партыя паставіла вельмі канкрэтныя пытанні і задачы. Усеагульным крокам былі нядаўна ўхваленыя Сеймам законы аб справах сельскай гаспадаркі.

У нас на Беласточчыне паклікана т. зв. **тройкі сельгаспадарчых спецыялістаў**, якія ўжо ад нейкага часу працуюць у грамадскіх радах нарадовых. Склад іх прадуманы так, што ёсць тут спецыялісты асноўных галін сельскай гаспадаркі і могуць яны правесці «фаховую» ацэнку стану гаспадарання жыхараў паасобных вёсак. Трэба сказаць, што гэта праца надта жмудная і што даныя спецыялісты атрымоўваюць не толькі ад гаспадароў, але перш за ўсё з розных устаноў.

Мяне зацікавіла праца спецыялістаў у **ГРН Галады**, Бельскага павета, дзе між іншым працуе інж. Уладзімір Куна. Для інфармацыі трэба сказаць, што тут сапраўды цяжкая сітуацыя, таму што ў большасці вёсак «квітнее шахаўніца».

Дадзеныя спецыялістаў гавораць, што на агульную колькасць **818** гаспадарак аж **171** з іх **абсалютна не прымяняе штучных угнаенняў.** На кожны гектар ворнай зямлі восенню 1967 года ў сярэднім выпадала толькі **5,5 кг** чыстага кампанента «NPK». Адным з асноўных, найпрасцейшых і хіба найтаннейшых спосабаў павышэння ўраджайнасці ёсць **вапнаванне глебы.** Аказваецца, што ў галадоўскай ГРН аж **665** гаспадарак на **4023** гектары ўвогуле не прымяняецца вапны. Картаў кіслотнасці глебы не выкарыстоўваюць нават солтысы, хаця яны і знаходзяцца ў іх руках.

Пустазелле надта паніжае ўраджай. А ў апісваемай ГРН справа выглядае так, што ў ніводнай вёсцы не знойдзена ніводнай растваральніцы для раствору збожжа з хімікатамі. Нават каларадскі жук, які надта апанаваў бульбяныя палі, быў ліквідаваны ў асноўным пры дапамозе распыльвання хімікатаў з панчохі.

Ёсць, здавалася б, і добрыя справы ў Галадах. На **1,5** тысячы гектараў азімінаў у гаспадароў і сельгасгуртках паасобных вёсак прыпадае **149** сеўнікаў. Калі возьмем пад увагу, што норма на адзін сеўнік выносіць **15** гектараў, здавалася б, што гэта дасканала. А што так не ёсць, сведчыць факт, што ў Галадах (вёсцы) не хапае 7 сеўнікаў, а ў Відаве 8. Ды і наогул **216** гаспадароў галадоўскай ГРН абсалютна не сее сеўнікам.

Вышэй прыведзеныя прыклады вельмі дрэнна адбіваюцца на кантрактацыі збожжа. План кантрактацыі збожжа прадбачваў 230 гаспадароў, выканана толькі 169, а скуп выканана (да 15. X. 1967 г.) толькі ў 14,2%.

Розныя лікі і іх супастаўленні можна яшчэ доўга прыводзіць, але справа не ў тым. Спецыяльна падабраў я тыя прыклады, якія ў асноўным не залежаць ад «вышэйшых улад». Вышэйшыя ўлады не будуць рассяваць вапны, а калі так, дык трэба выцягнуць адпаведныя прапановы тым, хто адказвае за сельскую гаспадарку і хто ёю цікавіцца. На лячэнне гэтых, можа нешта і сарамлівых недахопаў, генеральнага рацэпту няма і хіба гэта добра. Справа аднак у тым, каб рацэпт пачалі шукаць тыя, хто найбліжэй гаспадара і абавязкова з ім самім.

**А. Карпюк**

СЯДАЙЦЕ, ЕДЗЕМ!

## „Яўгені Анегін"

## і... чаго не спадзяемся

Уступна паведамляем, што ў Беластоку ў тэатры Вянгеркі будзе выступаць **Дзяржаўная аб'язная опера** з праграмай, якая ў Беластоку ніколі яшчэ не ставілася. Гэта:

1) опера «Яўгені Анегін» — Чайкоўскага,
2) опера «Фауст» — Гуно,
3) камічная опера паводле камедыі Шэкспіра «Віндсорскія свавольніцы» — Нікалаі.

Дзяржаўная аб'язная опера прыязджае ў Беласток у рамах нашай акцыі з Беластоцкім аддзелам Агульнакраёвай спулдзельні турыстычнай «Грамада» ў сваім поўным складзе — 110 чалавек — салісты, хор, балет.

У далейшым маем нашым чытачам мілую неспадзянку, аб якой у адным з наступных нумароў «Нівы».

**Заказ толькі прыпамінаем, што заказы прымаюць дэлегатура «Грамады» ў Сямяцічах, пляц Вызвалення 17 і Ваяводскі аддзел «Грамады» ў Беластоку вул. Варшаўская 38.** (вл)




Сямяціцкая міліцыя арыштавала Мікалая Такаюка з вёскі Галубоўшчыны. Гэты 18-цігадовы юнак параніў нажом Яна Бродзінка.

Ян Панькоўскі, 40 год, напіўся да непрытомнасці і ляжаў на вуліцы ў Нараўцы. Вечарам 15 студзеня наехаў на яго грузавік «Стар-23», якім кіраваў Мікалай Малец, з Дубна. Параненага і п'янага Я. Панькоўскага адставілі ў бальніцу.

Ноччу 14 студзеня ў вёсцы Мутная ў Сямяціцкім павеце абарваліся провады электраліініі высокага напружання. Упалі яны якраз на страху клуні Яна Калеты. Клуня згарэла. Затраты — 30 тысяч зл.

Міліцыянеры з сідраўскага пастарунку ў Сакольскім павеце ў час вобыску ў Яўгенія Чарнецкага з вёскі Рамановічка знайшлі і рэквізіравалі 3 літры самагонкі. Падобны вобыск правялі міліцыянеры з Нараўкі ў Адама Магеры з вёскі Семяноўка. Знайшлі ў яго 30 літраў рошчыну падрыхтаванага да выrабу самагонкі.

Крынкаўская міліцыя знайшла ў Міхася Яновіча з Крынак у Сакольскім павеце 17 авечых скурак падрыхтаваных да вырабу на хром. Міхась Яновіч (сын Міхася) мае 6-цігектаровую гаспадарку і скуркі выраблае патаемна.

Падчас праверкі самаходаў бельскія міліцыянеры адабралі 34 кг мяса ад Мікалая Васілюка і Яна Карнілюка, якія везлі цяляціну на продаж у Беласток, не маючы дзеля гэтага дазволу.

Віктар Боўтрык, 21 год, з Беластока, вуліца Варшаўская 69, вельмі любіў гарэлку. Па-п'янаму знутковаўся над уласнай жонкай, грэзў, што яе заб'е. Аднойчы падпаліў уласную каморку. Урэшце па прапанове II камісарыята яго арыштавана.

**Асака**

### «КРУГАЗОР»

Гэта цікавы месячны **часопіс — грампласцінка,** дзе знойдзеце тэксты розных песень і іх мелодыю на пласцінцы. Выдаецца ў СССР, а ў Беластоцкай кнігарні Міжнародный кніжкі і прэсы можна купіць яго за 12 злотых. Заахвочваем усіх да карыстання, асабліва ў сувязі з конкурсам савецкай песні, які аб'явіла ТППР. У «Кругазоры» знойдзеце найпрыгажэйшыя і самыя новыя савецкія песні. (вл)

робкі былі вельмі нізкімі. Поруч з мужчынамі працавалі жанчыны, падросткі і дзеці, аднак капіталісты плацілі ім значна меней, чым рабочым-мужчынам. Фабрыканты за якія-колечы недагляды абкладалі рабочых вялікімі штрафамі. Працавалі ж рабочыя ў цесных, сырых, змрочных і халодных будынках. Машыны не былі забяспечаны. Часта здараліся няшчасныя выпадкі, калецтвы і смерць. Рабочыя хварэлі, трацілі здароўе і здольнасць да працы. Тых, хто страціў працаздольнасць, капіталісты звальнялі, не давалі ім ніякага забеспячэння. Жылі рабочыя ў сырых, цесных бараках і халупах.

Найбольш свядомыя рабочыя не хацелі пагадзіцца са сваім жудасным становішчам. Яны спрабавалі дамагацца палепшання ўмоў жыцця і працы. Аднак хутка пераканаліся, што яны самі, у паасобку, нічога не здабудуць.

Першае масавае выступленне беларускіх працоўных мела месца ў 1886 годзе ў Гомелі. Забаставала 500 рабочых тытунячных майстэрань. Яны дамагаліся павелічэння заробкаў. Іх падтрымалі іншыя рабочыя. Забаставаўшыя перамаглі. У наступным годзе баставалі рабочыя слясарна-кавальскіх майстэрань Мінска. Яны дамагаліся ўстанаўлення 12-цігадзіннага дня працы. Забастоўка праходзіла арганізавана. Уласнікі майстэрань вымушаны былі ўступіць.

З цягам часу рабочы рух на беларускіх землях пашырыўся, ахопліваў штораз большы і большы лік рабочых. У рабочым асяроддзі Мінска, Гомеля, Магілёва, Брэста паўсталі марксісцкія гурткі і групы. Іх удзельнікі займаліся самаадукацыяй, чытаннем і распаўсюджваннем рэвалюцыйнай літаратуры. У. І. Ленін у 1895 годзе ў Пецярбургу заснаваў рабочую рэвалюцыйную арганізацыю «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа». Пад уздзеяннем «Саюзу» ўзнікаюць сацыял-дэмакратычныя рэвалюцыйныя арганізацыі ў многіх гарадах Беларусі. Гэта ўзмоцніла рабочы рух на беларускіх землях.

У 1898 годзе ў Мінску адбыўся Першы з'езд сацыял-дэмакратычных арганізацый, якія дзейнічалі ў Расійскай дзяржаве. На ім была заснавана Руская Сацыял-Дэмакратычная Рабочая Партыя (РСДРП). Яна стала арганізуючай і кіруючай сілай рабочага руху ў Расіі і Беларусі. Пасля яе ўзнікнення рэвалюцыйны рабочы рух ажывіўся.

Пад кіраўніцтвам гродзенскай арганізацыі РСДРП адбылася працяглая забастоўка работніц тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага ў Гродне. У ёй прыняло ўдзел 1200 работніц. Яны дамагаліся павелічэння заробкаў. Забастоўка закончылася перамогай работніц.

Пад кіраўніцтвам РСДРП рабочы рух у Беларусі набыў свядомы палітычны характар.

*ПЫТАННІ І ЗАДАННЕ*

1. *Як развіваўся капіталізм у сельскай гаспадарцы Беларусі?*
2. *Раскажыце, у якіх умовах жылі і працавалі рабочыя Беларусі.*
3. *Калі і дзе адбылося першае масавае выступленне рабочых у Беларусі?*
4. *У якім годзе і дзе адбыўся Першы з'езд РСДРП?*
5. *Якое значэнне для развіцця рабочага руху на беларускіх землях мела дзейнасць РСДРП?*

### «КАСЦЮШКОЎСКАЕ ПАЎСТАННЕ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ»

Пад такім загалоўкам Таварыства прыяцеляў Белавежы правяло ў сябе гутарку. На гэту тэму гаварыў мгр В. Татарчук з Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы. (вл)

### ШЧАСЛІВЫЯ КНІЖКІ ПКО

У новым лясаванні самаходовых кніжак ПКО жыхары Беласточчыны выйгралі зноў 8 самаходаў марак «Трабант-Лімузін 601», «Варшава», «Сірэна», «Масквіч».

У ваяводстве жыве зараз 113 шчаслівцаў з аўтамашынамі, якія яны здабылі дзякуючы кніжкам ПКО. (вл)

# ТРЫБУНА чытачоў

## РЭАЛІЗАЦЫЯ ПАСТАНОЎ IX ПЛЕНУМА

У сувязі з пастановамі ЦК ПАРП у грамадзе Храбалы праведзена аналіз сельскагаспадарчай вытворчасці ў паасобных вёсках, а таксама колькасці выкарыстоўвання мінеральных угнаенняў. Сцверджана, што NPK у Рапневе на 1 га зямельных угоддзяў прыпадае 99 кг, у Храбалах — 76 кг, у Дзяніскаx — 22 кг, а ў Райску — 21 кг.

Падобная сітуацыя і з выкарыстоўваннем палявой вапны. На 1 га ў Рапневе ў мінулым годзе выпала 427 кг. А жыхары Дзянісак зусім не вапнуюць зямлі. Калі разыходзіцца аб сеўнікі, дык іх хапае ў кожнай вёсцы. На адзін сеўнік прыпадае сеяння азімага збожжа ад 7,4 га да 4 га.

Не найлепш прадстаўляецца справа з жывёлагадоўляй. На 100 га зямельных угоддзяў у грамадзе Храбалы налічваецца 48 штук быдла. А ёсць магчымасці, каб лепш яна развівалася. Сяляне замала робяць сіласу. Шмат, бо аж 39 на 144 пабудаваных сіласных ям стаіць без кішонак.

Рэалізуючы пастановы IX Пленума ЦК ПАРП грамадская рада нарадова ў Храбалах, між іншым, пастанавіла, што: а) сельскагаспадарчыя гурткі забяспечаць транспартам давоз палявой вапны, а грамадскі аграном акрэсліць патрэбную колькасць вапны для кожнага гаспадара, б) у гэтым годзе будзе адноўлены сеўны матэрыял жыта і бульбы.

Будзе ўведзена таксама комплексная барацьба з пустазеллем, а ў вёсках Райск, Гацькі, Кнаразы і Плёскі будуць арганізаваныя пункты коміснага продажу вапны. Пастаноўлена: а) прыйсці з дапамогаю гаспадарам у пабудове будынкаў для жывёлы, б) лепш кансерваваць меліярацыйныя равы, в) рацыянальней выкарыстоўваць пашы, г) сеяць больш паплёнаў і т.д. Адным словам, ГРН у Храбалах выпрацавала багаты план дзейнасці, які забяспечвае рэалізацыю пастаноў IX Пленума ЦК ПАРП.

**Аляксандр Трахімчук**
Храбалы

## ДАШКОЛЬВАННЕ ГАСПАДАРОЎ

Па ініцыятыве павятовых улад у Гайнаўцы адбываюцца тэарэтычныя заняткі для гаспадароў на сельскагаспадарчую тэматыку. Між іншым такое дашкольванне праводзіцца ў Чыжах. Заняткі адбываюцца два разы ў тыдзень. А менавіта ў панядзелак і ў чацвер. На занятках многа ўвагі прысвячаецца развіццю жывёлагадоўлі. Таму многа гаворыцца аб нашых лугах і сенажацях. Дзевяноста шэсць гаспадароў запісалася на пакупку мінеральных угнаенняў на свае зялёныя ўгоддзі. Гутаркі паміж прадстаўнікамі «ральніцтва» з павета і гаспадарамі — гэта вельмі карысная ініцыятыва ўлад з Гайнаўкі.

**Янка Грамадзкі**
Чыжы

## СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫЯ СХОДЫ

Мінула ўжо двухгадовая кадэнцыя партыйных улад у падставовых арганізацыях Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Ва ўсіх паветах у вясковых партыйных арганізацыях пачаліся падрыхтовачныя перадсправаздачныя сходы, на якіх паклікаюцца камісіі да апрацоўкі справаздачы і двухгадовых праграм дзейнасці ПОП. Такія сходы ўжо адбыліся ва ўсіх 17-ці партыйных арганізацыях грамады Мілейчыцы ў Сяміяцкім павеце.

**М. Вішанка**
Мілейчыцы

## ВЕЧАР ПЕНСІЯНЕРАЎ

27 студзеня астанецца надоўга ў памяці ва ўсіх пенсіянераў фабрыкі дакладных вырабаў у Чорнай Беластоцкай. У гэтым дню дырэкцыя, рада прадпрыемства прафсаюзаў, рада рабочых і рада жанчын арганізавалі вечарыну для пенсіянераў. Пры багата застаўленых сталах, пры традыцыйнай лямпцы віна і пры надзвычай мілай атмасферы доўга цягнуліся задушэўныя гутаркі. Цеплыню настрою запачаткавалі сваімі выступленнямі дырэктар прадпрыемства Ян Маляванчык і сакратар партыйнай арганізацыі Уладзімір Сакоўскі, якія ў адрас пенсіянераў сказалі многа прыемных слоў. Варта падкрэсліць і тое, што пад гукі аркестра весела ўсе гулялі. А найлепш і найбольш танцавалі 68-гадовы грам. Пастушок і 69-гадовы тав. Вісьнеўскі. Каб добра прайшоў вечар, многа папрацавалі жанчыны: Мар'я Мруз, Леакадзія Сіхоцка, Генавефа Абухоўская, Ядвіга Далжынская і Галена Васілеўская.

**Г. Абухоўская**
Чорна Беластоцкая

## АЛЯКСАНДР КУБАЕЎСКІ

Аляксандр Кубаеўскі з'яўляецца радным у сваёй асадзе Орля. Гэтую ганаровую функцыю выконвае даволі добра. Праяўляе амаль заўсёды вялікую актыўнасць на сесіях грамадскай рады нарадовай. На апошняй сесіі, якая адбылася ў студзені і якая была прысвечана пастановам IX пленума ЦК ПАРП, Аляксандр Кубаеўскі расказваў аб тым, як ён гаспадарыць. А гаспадар з яго перадавы. Ён ужо даўно перакрочыў нормы ўгнойвання зямельных угоддзяў мінеральнымі ўгнаеннямі. Паводле пастаноў сесіі ГРН у Орлі кожны гектар зямлі павінен атрымаць у гэтым годзе 80 кг NPK. Аляксандр Кубаеўскі ўжо знаходзіцца недзе за 1970 годам у адносінах да норм грамады адносна выкарыстоўвання мінеральных угнаенняў.

Гаспадарыць ён на няпоўных 5-ці гектарах зямлі. У яго ёсць чаму навучыцца суседзям. Ураджаі ў Кубаеўскага заўсёды высокія, заўсёды лепшыя, як у іншых гаспадароў. І жывёлагадоўца з яго добры.

**Юры Гаворка**
Орля

## ЗАНЯТКІ ПА САМААХОВЕ

Згодна з пастановамі Рады міністраў, Міністэрства абароны і рад нарадовых усіх ранг некалькі ужо год чытаюцца лекцыі і вядуцца практычныя заняткі па самаахове.

У мінулым годзе ў грамадзе Рыбалы, мясцовая група самааховы паспяхова выканала праграму прадбачаных заняткў. Зараз таксама ўжо пачаліся заняткі па самаахове ў Рыбалах і Паўлах. Кладзецца тут шмат намаганняў у напрамку паляпшэння структуры арганізацыйнай і практычнай падрыхтоўкі і гатоўнасці насельніцтва да самааховы.

**Мікола Нікіцюк**
Рыбалы

## САМАДЗЕЙНІКІ ПАЛІЧНАЙ

28 студзеня ў Дубічах Царкоўных у святліцы адбылося выступленне самадзейнікаў мастацкага калектыву з вёскі Палічна. У праграме былі песні, вершы, скетчы, якія вельмі горача ўспрымаліся прысутнымі. На заканчэнне рэпертуару была паказана польская драма п.з. «Бзы». У час выступлення палічанскіх самадзейнікаў зала святліцы была запоўнена гледачамі да апошняга месца. Праграма закончана агульнай **забавай для** моладзі.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## БЯДА З МАЛАКОМ

Апошнім часам сяляне нашай вёскі маюць вялікія клопаты з продажам малака. У Крывяцічах замкнулі злеўню малака толькі таму, што не выбралі дагэтуль чалавека, які вёў бы скуп. Віна ў гэтым таксама і бельскай малачарні, якая, як відаць, не выконвае добра сваіх абавязкаў. Варта, каб у гэтай справе ўлады малачарні прыйшлі як найхутчэй з дапамогай жыхарам нашай вёскі.

**Янка Кірыдзюк**

## КУЛЬТУРА ВЁСКІ

Вёска Каматаўцы знаходзіцца на ўскраіне Беластоцкага павета. Да найбліжэйшага горада Беластока — 50 км. Калі прыйдзе зіма і завее снегам дарогі, цяжка сюды дабрацца, не гледзячы на тое, што вёска гэтая ляжыць усяго 2 км. ад шашы. Моладзі ў вёсцы, можна сказаць, няма, вучыцца яна і працуе пераважна ў Беластоку. Прыязджае да бацькоў толькі на святы. У вёсцы засталося некалькі маладых людзей, якія знайшлі працу ў тутэйшым сельгасгуртку. Сельгасгурток існуе ў вёсцы некалькі год, але за гэты час добра развіўся і стаіць хіба на першым месцы ў Беластоцкім павеце. У сельгасгуртку налічваецца больш 40-ка чалавек. Ёсць 1 абмалотачны агрэгат і пяць трактараў з камплектным абсталяваннем. Сельгасгурток абслугоўвае сялян навакольных вёсак. Сяляне задаволены, а сельгасгурток мае добрыя даходы. Да таго сельгасгурток у Каматаўцах апрацоўвае звыш 50-ці гектараў зямлі дзяржаўнага фонду, з чаго мае таксама не малы даход.

Вясной у сялян няма многа вольнага часу, паміма дапамогі машын. Але вось прышла зіма і доўгія зімовыя вечары. Акрамя ўходу за жывёлай у сялян няма работы, і вось пачынаюць яны «нудзіцца». Патрэбна была б якаясьці культурная разрыўка, патрэбна было б весела правесці вольны час. Паміма таго, што вёска ўжо больш году электрыфікавана і многія сяляне маюць радыёпрыёмнікі і адаптары, аднак знаходзяць яны разрыўку ў іншай форме. Адзінай пацехай сялян з'яўляецца вясковая крама, папулярна названа «карчмой». Гэты невялікі мураваны будынак з пустакоў вечарам напоўнены старэйшымі і моладдзю. Тут можна выпіць бутэльку піва і віна, падагрэўшы яго на ўстаноўленай у краме печцы. І жыхары вёскі раскашуюцца цёплым півам часта да поўначы. Прадаўшчыку гэта на руку, бо яму плацяць працэнт ад продажу, а пры аказіі і сам вып'е шклянку дарэмнага віна. Таму прадаўшчык стараецца, каб віна было пад дастаткам. У нядзелю ці свята, калі крама закрыта, можна віно і піва купіць у яго ў хаце, а хто хоча, можа на месцы выпіць. Потым да позняй ночы чуваць толькі п'яныя галасы, крыкі ды спевы. У вёсцы п'е не толькі моладзь, якой толькі некалькі чалавек, але жанатыя старэйшыя мужчыны. «Карчма» заступае ўсё. Але вось у снежні мінулага года з ініцыятывы кіраўніцтва сельгасгуртка і невялікай дапамозе сялян быў куплены новенькі тэлевізар. Дзякуючы кіраўнічцы школы Веры Шапель, тэлевізар пастаўлена ў вольным класе школы. Пяпер у гэтым класе не вучацца, бо мала дзяцей, школа 4-охкласная, а не сямікласная, як раней. Калі купілі тэлевізар, думалася, што «карчма» страціць сваіх кліентаў. Але гэта было толькі некалькі дзён, некалькі дзён школьная зала была перапоўнена. Тэлевізар абслугоўвала не адна асоба, а хто як умеў. Тэлевізар папсаваўся, але наладзіць няма каму задбаць. Толькі многа гаворыцца, а нічога не робіцца. Школьная зала апусцела, а напоўнілася ізноў «карчма». Часта таксама хата прадаўшчыка, дзе адбываюцца спаборніцтвы па выпіўцы віна. І зноў па начах можна пачуць ахрыплыя перапітыя крыкі, спевы і «культурныя лацінскія словы», а таксама можна ўбачыць шпацыры на «чацвярынках».

Сатурн
Беластоцкі павет

---

варожага карабля плыўцы не будуць свідраваць у ім дзірак, — сказаў Абст, скончыўшы работу. — Яны падвесяць зарады і ўключаць механізм узрываценяў.

Канарыс маўчаў.

— Баюся, плыўцы не абмяжуюцца дзіркамі, — працягваў Абст. — Зараз мы падымем якар і паглядзім, ці не здарыцца яшчэ якая-небудзь непрыемнасць.

І ён накіраваўся на бак.

— Якар падняты, — далажыў Абст, вярнуўшыся. — Цяпер завядзем матор.

Канарыс не здзівіўся б, калі б здарылася цяпер што-небудзь з рухавіком ці вінтам. Але не, Абст уключыў стартар, матор пачаў працаваць, і кацер рушыў.

— Паглядзіце, што яны натварылі! — сказаў Абст. — Кацер не слухае руля!

Абст не хлусіў. Канарыс бачыў: штурвал пераложаны ўправа, але за кармою ўсё цягнецца просты, як лінейка, след.

Абст выключыў матор і, павярнуўшыся да шэфа, развёў рукамі.

— Ну-ну, — прамармытаў Канарыс, — хопіць жартаў! Спрытна ты ўсё прыдумаў!

— Я? — засмяяўся Абст. — Я тут ні пры чым.

— Хто ж сапсаваў руль?

— Вядома, яны. Відавочна, ім хацелася лепш паказаць сябе. Вось яны і сцягнулі пяро руля. Аднак мы перахітрым іх. Я ведаў, з кім маю справу, таму ўзяў сёе-тое.

І Абст пачаў адвязваць прымацаванае да планшыру вялікае вясло. Ды тут здарылася тое, чаго, здаецца, не чакаў і Абст. Ледзь толькі спусціў ён вясло за карму, каб дзейнічаць ім замест руля, як яно было вырвана і з сілай адкінута ўбок.

І ў той жа міг з вады выскачыла чорнае пружыністае цела. Канарыс не паспеў і вокам моргнуць, як чалавек апынуўся ў кацеры, схапіў яго за грудзі, падняў руку з нажом.

— Стой! — крыкнуў Абст, намагаючыся дастаць з кішэні пісталет. — Стой, кінь кінжал!

Але плывец толькі інсцэнізаваў атаку. Вось ён выпусціў Канарыса, сеў на банк і сцягнуў з галавы гумовы шлём.

— Устаць! — разлютаваўся Абст.

— Не трэба, Артур, — сказаў Канарыс. Ён звярнуўся да плыўца: — Скажы, ты сам гэта прыдумаў?

Той усміхнуўся.

— Тваё імя?

Канарыс па-бацькоўску пахлопаў яго па плячы, пасадзіў побач з сабою, пачаставаў сігарэтай.

— Дамоў, Артур! — загадаў ён. — Пара на адпачынак.

— Але ў мяне просьба, — сказаў Абст. — Ці не згодзіцеся, пасля адпачынку, пагутарыць з плыўцамі? Яны будуць шчаслівымі.

Абст выглядаў раўнадушным. Але гэта была ігра. Канарыс не павінен быў дагадацца аб сюрпрызе. Няхай усё адбудзецца нечакана. Тым большы будзе эфект. Напружаная праца апошніх год дала вынік, і цяпер Абст павінен трымаць экзамен.

**(Працяг за тыдзень)**

# КІНО

**Праграма на 20—25.II.1968 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

,,Królowa stacji benzynowej'' (radziecki), 20—21. ,,Zwali go Alcapone'' (jugosł.), 22—23. ,,Westerplatte'' (polski) 24—25.

**Дубіны**

,,Kochankowie z Mareny'' (polski), ,,Lebiediew contra Lebiediew'' (radziecki), 24—25.

**Нараўка**

,,Zarezerwowane dla śmierci'' (NRD), ,,Złodziej brzoskwiń'' (bułg.), 21—25.

**Нарва**

,,Dialog'' (węgierski), ,,Sam pośród miasta'' (polski), 21—25.

**Чыжы**

,,Mroźny poranek'' (radz.), ,,Złodziej samochodów'' (radz.), 21—25.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Zielone światło'' (radz.), ,,Sami na wyspie'' (jugosł.), 21—25.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

,,Najazd Czarnego księcia'' (radz.), ,,Ludzie w hotelu'' (USA), 21—25.

**Орля**

,,Lenin w Polsce'' (polski), ,,Gorzkie dno rzeki'' (jugosł.), 21—25.

**Райск**

,,Partyzanckim szlakiem'' (jugosł.), ,,Wojenka, wojenka'' (rumuński), 21—25.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

,,Czterej pancerni i pies'' (polski), 20--23.

**Міхалова**

,,Rodzaj miłości'' (angl.), 20—21. ,,Życie zamku'' (franc.), 22—23. ,,Samson'' polski), 24—25.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Rondo'' (jugosł.), 20—21. ,,Powrót na ziemię'' (polski), 22—23. ,,Porucznik jazdy'' (radz.), 24—25.

**Шудзялава**

,,Kto jest bez winy'' (czeski), ,,Pluton 317'', (franc.), 21—25.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

,,Kryptonim Nektar'' (polski), ,,Przed wojną'' (jugosł.), 22—25.

**Новы Двор**

,,Kochajmy syrenki'' (polski), ,,Zerwany most'' (polski), 24—25.

**Ліпск**

,,Na pokładzie stanął kapitan'' (radz.), ,,Ściana czarownic'' (polski), 24—25.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. G-3. NAKŁAD 7749

# СПАЛЕНАЯ ГУСКА

Мае даражэнькія! Жывёлагадоўля —гэта вельмі важная справа, і таму заўсёды аб гэтым гаворыцца. Калі я прачытала артыкул у «Ніве» № 2 г. г. п. з. «Жывёлагадоўля ці свінагадоўля», то, прызнаюся вам, што мала не лопнула ад злосці, а зубамі так моцна заскрыгатала, што аж зуб выкрышыўся. Трохі ўстыднавата зрабілася Марцінавае Зоські, якая была ў той час у мяне ў хаце, бо дзе ж паказваць злосць перад жанчынаю, якая прышла запрашаць мяне на багаты вечар у госці. Адумаўшыся трошкі, я ўсміхнулася і гавару: падумаеш, Зоська, артыкул гэты мо і добры, але калі журналіст сумеў палічыць свінні ў некалькіх паветах і помніць гэта ад 1963 года, то чаму ён не палічыў цялят і фермераў у Подранках на каленіі. Там, гавару, ёсць фермеры, якіх у нас інакш «цялятнікамі» называюць. Яны з гэтага і ўтрымоўваюцца. Цяпер, калі сезон на цяляткі, то нашыя цялятнікі толькі конікі ў санкі і па суседніх вёсках. І мой дурніла прадаў цялушачку такую прыгожую, што я аж плакала як вярнулася з Гарадка. Падумайце ж, як было не плакаць: нават мне хвастовага не прышлося і яшчэ фермер майго дурнілу на 8 кг. ашукаў. Заплаціў праўда добрыя грошы, бо аж па 18 зл. жывой вагі, але падумайце, колькі гэта 8х18. Марыся Іванава сама бачыла, як цялятнік нагой вагу прытрымоўваў. Стары мой не ведаў, што я важыла цялушачку ад'язджаючы ў Гарадок і знаю, колькі яе было кг. Прызнаюся, што так я разгаварылася, што гуска, якую ішла вымаць з духоўкі, на вугаль усмажылася, а пірог з капанькі на ляжанку, а пасля і на зямлю пачаў падаць. Выгаварыўшы ўсё гэта аж на душы лягчэй зрабілася. — І што ж ты на гэта, Зоська? — пытаюся. Зоська ў нас баба разумная, яна нават сны разгадвае. І так наогул разумная, але, падумаўшы, гаворыць: «Ты, Міхалінка, знаеш, я думаю, што можа той журналіст баяўся туды ісці, бо яны жывуць пад лесам, а там многа, кажуць, ёсць шалёных лісаў. Яшчэ чаго добрага нападуць ды пакусаюць. Я так сабе думаю, што можа і гэтых фермераў хапіла шаленства, бо як яны гадуюць так многа купленых цялят?» Пасля гэтых слоў Зоська хітра ўсміхнулася і пачала зноў пра багаты вечар, але мая душа зноў напоўнілася жалем, калі паглядзела на спаленую гуску і булкі.

Міхаліна,
суседка цёткі Мальвіны






Знайдзіце дзесяць адрозненняў паміж гэтымі малюнкамі.



## Думкі ясвы і апалонікі

**Ад якасці нашага самаадчування часта залежаць нашыя пункты гледжання.**

**Ураднік, які з-за паперы не бачыць чалавека, з'яўляецца рухомым параграфам.**

**Карыта кожнай хеўры збітае з моцных дошак, ды няўстойлівае.**

**Ёсць нават такія людзі, якія баяцца сваіх уласных думак.**

**У пошуках чалавек ходзіць па бездарожжы, таму часта блудзіць.**

### У ВАГОНЕ

Праваднік. Прашу вас, кіньце цыгарэту. У купэ дазваляецца курыць толькі пры згодзе ўсіх пасажыраў.

Пасажыр. Але я тут адзін.

Праваднік. Тады пачакайце, пакуль хто-небудзь прыйдзе!

### НЕ ТУРБУЙЦЕСЯ

Абураныя жыхары раніцай скардзіліся суседцы па кватэры:

— Ваш муж усю ноч то спяваў, то буяніў!

— Не турбуйцеся, калі ласка, — адказала суседка. — Ён днём выспіцца.

### ШТО КАЛІ

Праблема пасылкі чалавека на Месяц будзе, відаць, вырашана ў бліжэйшае дзесяцігоддзе, а праблема дастаўкі чалавека на работу — у наступнае стагоддзе.

### ДВА СКАЗЫ

Настаўнік папрасіў вучняў напісаць па два сказы з тым, каб у кожным з іх было па пяць дзеясловаў: Маленькі Міхаська напісаў: «Мама гатуе, прыбірае, шые, прасуе, мые». «Тата есць, п'е, курыць, гуляе і спіць».

### ДАРЭМНАЕ ХВАЛЯВАННЕ

Сусед да суседа:

— Ты чуў, хутка зацьменне сонца будзе?

— Чаго хвалявацца? Да нас яа даўно электрычнасць правялі.

### ПРЫМАК

Я жаніцца захацеў,
А кутка свайго не меў.
Сам сябе суцешыў.
Буду жыць у цешчы.

І пайшоў я ў цешчын дом
Паслухмяным прымаком.
Ажно бачу — цешча
Бярэ мяне ў клешчы.

— Многа спаў ды многа піў,
Мала сена накасіў,
Многа слоў намалоў,
Мала дроў накалоў.

Вось, браткі, мой лёс які!
Закажу дзесятаму:
Чым ісці ў прымакі,
Лепей — нежанатаму.

**Васіль Жуковіч**

### СІЛА ЗААХВОЧВАННЯ

Дзевяцігадовы Воўка пахваліўся дома:

— Тата, я сёння цераз вуліцу адну дзяўчынку перавёў, яна адна баялася ісці.

— Малайчына, сынок, правільна зрабіў. На табе за гэта пяць злотых на цукеркі.

Назаўтра Воўка расказаў дома, што перавёў цераз вуліцу старую бабульку, і зноў атрымаў на цукеркі.

А праз дзень хлопчык прыйшоў са сваім сябрам Алікам.

— Тата, мы сёння перавялі дзядулю!

— Добра, сынок, на табе за гэта...

— Тата, дай пяць злотых і Аліку! Мы ж дзядулю ўдвух перавodзілі!

— А што ты адзін не мог перавесці?

— Не мог, чэснае слова! Дзядуля ж упіраўся!

**П. Стрыбук**

### ПРА ІГРУ НА РАЯЛІ

Як вядома, Ферэнц Ліст быў вялікім піяністам-віртуозам. Аднойчы, калі ён даваў канцэрты ў якімсьці салоне, адна дама спытала ў яго:

— Глыбокапаважаны маэстра, ці праўда, што піяністам трэба нарадзіцца?

Ліст крыху падумаў і адказаў:

— Зусім правільна, сударыня. Не нарадзіўшыся, немагчыма іграць на раялі.

### ЗАЙЧАНЯ

Зайчаня звольнілі за п'янку з работы.

— Вы будзеце адказваць перад маім бацькам, — пагражае яно Ваўку, які падпісаў загад.

І Воўк рэагаваў. Але цяпер няма ні Зайчаняці, ні яго бацькі.

**Зм. Шаўчэнка**

### БОЛЬШ НЕ ЛЕЗЕ

Два п'яныя мужчыны сядзяць за сталом. Перад імі талерка з агуркамі.

— Ты чаго па два агуркі на відэлец бярэш? — пытае першы.

— А таму, што болей не лезе, — апраўдваецца другі.

### ПРЫЧЫНА

Унучка глядзіць на фотаздымак бабулькі ў маладосці і кажа:

— Ат, якая ты раней была непрыгожая, бабулька...

— Чаму ж, Людачка?

— Бо тады ты не была маёй бабулькай.

### У КНІГАРНІ

Абураны пакупнік да прадаўшчыцы:

— Дайце, калі ласка, кнігу скаргаў.

— Выбачайце, мы гандлюем толькі мастацкай літаратурай.



У сям'і педагогаў.



Без слоў.



— Не кусаецца, Лілінька, п'е!

## Застольная

Словы: Адама Русака
Музыка: І. Кузняцова

Ой, не п'ецца гарэлка!
Ой, не п'ецца віно,
Хто ж нальє таго мёду,
Каб пілося яно?

Паміж нас маладыя
За вясельным сталом,
Павянчалася шчасце
Іх пад шлюбным вянком.

Не з гарэлкі мы п'яны,
П'яны мы не з віна, —
Ап'янелі ад песень,
Ад гульні да відна.

Горка, горка гарэлка
За вясельнай гульбой,
Падсалодзяць нам чаркі
Маладзы з маладой.

Падсалодзяць тым шчасце,
Што два сэрцы зліло,
Каб вясёлым, мядовым,
Век жыццё іх было.

## Курэзы

### Не рок-н-ролам адзіным...

Некалі славуты кароль рок-н-рола Эльвіс Прэслі, нажыўшы вялікае багацце, заняўся цяпер больш зямнымі справамі. Спачатку пачаў разводзіць жывёлу, а цяпер сваё захапленне перамяніў на каняводства. У сувязі з гэтым з аўкцыёна сталі распрадаваць многія рэчы з ранча Прэслі ў штаце Місісіпі. Сярод іх і электрапавозка Прэслі, на якой ён аб'язджаў свае ўладанні. Яе ацэначны кошт — 12 тысяч долараў.

### Запрашэнні з прынадай

Кіраўнікі аднаго з аддзяленняў амерыканскай гандлёвай палаты доўга думалі над тым, як сабраць найбольш дэлегатаў на свае штомесячныя сходы. І прыдумалі... На апошнім сходзе сярод дэлегатаў хадзілі афіцыянткі, аголеныя да пояса, а потым былі паказаны нудзісцкія фільмы. І упершыню за доўгія гады колькасць прысутных дасягнула 300 чалавек замест звычайных 15—20. Што датычыцца маральнага боку гэтай задумы, дык віцэ-прэзідэнт гандлёвай палаты Кронк заявіў наступнае: «Гэта ганьба, гэта свайго роду дэградацыя». Але яго падначаленыя, падбадзёраныя поспехам, пацвердзілі, што і надалей яны мяркуюць праводзіць свае сходы ў такім жа духу.

### Музейны экспанат

Вялікую цікавасць выклікаў аўкцыён, на якім прадаваўся стары грузавік, што ў 1963 годзе перавёз украдзеныя з экспрэса Лондан—Глазга два з палавінай мільёна фунтаў стэрлінгаў. Уладальнікам гэтай музейнай рэдкасці стаў Гамлет Вейнрайт, які заплаціў за машыну вялікую суму.




**Калі вы не моцныя ў практыцы, не адчайвайцеся. Яшчэ ёсць магчымасць вызначыцца ў тэорыі.**